# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 9 (205) (верасень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus


## Змест





# «О, хараство асенніх дзён…»

Янка КУПАЛА

### Адцвітанне

*Не шасцяць каласы,*
*Звон не валіцца з касы,*
*Не кладуцца ў стог пласты,*
*Толькі сыплюцца лісты*
*На яловыя кусты,*
*На сухія верасы.*

*Не іскрыцца небазор,*
*Не цвіце трава-чабор,*
*Не цыгліць птушыны стан,*
*Толькі поўзае туман,*
*Вецер б'е ў нямы курган, —*
*Шапаціць імглісты бор.*

*Змога вольная сную,*
*Вочы ўставіўшы свае,*
*То галубне, то пужне.*
*Сэрца б'ецца у паўсне,*
*Думка сэрцу аб вясне*
*Здрадны голас падае.*

Уладзімір ЖЫЛКА

### Восень

*О, хараство асенніх дзён празрыстых,*
*Бязгутарнасць прыроды і спакой.*
*Ўрачыста полем з пушчаў залацістых*
*Прыйшла туга і пала над вадой.*

*А там застыла яснасць даляў чыстых*
*Над цёмнай рунню й чорнай цалінои,*
*І холад лёгкі ў косах прамяністых*
*Разліла сонца хваляй нежывой.*

*Наўкол сляды павольнага канання*
*І веліч нетутэйшага маўчання.*
*Прымаю корна сон зямлі азурны.*

*І летуціцца сцішанай душы*
*Такі ж спакой, халодны і бязбурны,*
*І адцвітанне яснае ў цішы.*

Максім ТАНК

### Восень

*Над палямі хістаўся пашчэрблены месяц.*
*Вецер дзьмуў, і шумеў па-над Нёманам бор.*
*Восень веццe сухое зграбла і на ўзлессі*
*Падпаліла пагрэцца начлежны касцёр.*

*Падпаліла касцёр, прылягла у тумане,*
*Ды кароткім быў гэты пад зорамі сон:*
*Крык трывожны птушыны збудзіў яе рана,*
*Па зямлі ад кастра разліваўся агонь.*

*Загарэліся гнёзды, і іскры пажару*
*Пачала яна з птушкамі, з ветрам гасіць.*
*Толькі полымя ўжо разлілося ў імшарах,*
*Па лясах і палях, па курганах брусніц.*

*І па сённяшні дзень восень жару не можа*
*Пагасіць на зямлі, ходзе з краю у край,*
*Заліваючы ліўнямі ў полі бярозы*
*І цалуючы кожны рабінавы гай.*



Фота Таццяны Гусаравай

Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

***

*У векавечнай бацькаўшчыне клёны*
*Нячутна пачынаюць аблятаць*
*На рыжую траву, на мох зялёны,*
*На весніцы, на ціхі стаў, на гаць.*

*Зямля глядзіць азёрамі-вачыма*
*На ясны свет, што стыне у красе.*
*Як чыста, бы святло абшары вымыла,*
*Як ціха – быццам зніклі людзі ўсе.*

*Адвечная мая! Ў сцюдзёных росах,*
*Як летась, як мільёны год таму…*
*Ляцяць на ветры косы рыжай восені,*
*І кліча лісцяў жоўты сум зіму.*

*На вуснах стыне горкі смак рабіны,*
*Цалую іх, халодныя, як лёд.*
*О вы, што будзеце ісці з дзяўчынай*
*Пад тымі ж клёнамі праз сотню год,*

*Ці зразумееце, што мы кахалі,*
*Што зніклі так, як знікнеце і вы,*
*Што векавечны толькі край, і далеч,*
*І жоўты ліст на зелені травы,*

*Што ў векавечнай бацькаўшчыне клёны*
*Тысячагоддзі будуць аблятаць*
*На рыжую траву, на мох зялёны,*
*На весніцы, на ціхі стаў, на гаць,*

*Што нездарма яны з асінак рудых,*
*Калі ідзеш увосень па зямлі,*
*Раняе золата пад ногі людзям,*
*Каб мы яе любілі й берaглі.*

Канстанцыя БУЙЛО

***

*Сарвала восень з дрэваў лісце,*
*Іх вецер круціць у віры,*
*Як лёс круціў людзей калісьці*
*Ў далёкай, сумнае пары.*

*А вось не сумна мне сягоння,*
*Бо, дзе трымаліся лісты,*
*Пупышкі ў рост сук голы гоніць,*
*І ён не мёртвы, як кастыль.*

*Ўсё, што жывое, будзе жыва.*
*А вецер мёртвае мяце…*
*Вясною, з новых сіл прылівам*
*Наш сад магутна зацвіце.*

*Так і душа… Не дайся болю*
*І думы гордыя спялі, —*
*І не загіне, вер, ніколі*
*Ўсё, што ты зробіш на зямлі.*

Анатоль ГРАЧАНІКАЎ

***

*Зноў верасень —*
*Запаслівы грыбнік —*
*Шчыруе па імшыстых баравінах.*
*Трымціць раса на звонкіх павуцінах,*
*І травастою пах яшчэ не знік.*

*Немітусліва*
*Промні аж да дна*
*Прасвечваюць азёрныя глыбіні.*
*І гронкі аццяжэлыя каліны*
*Насыціліся сокамі спаўна.*

*Мне даспадобы*
*Верасень заўжды.*
*І не таму, што ў ім я нарадзіўся.*
*У верасні мне свет увесь адкрыўся*
*У спеласці сакоўнай — маладым.*

*Так, свет!*
*І сам я ў вераснёвы час,*
*Прасвечаны святлом яго, як гронка,*
*Спяваю і не ціха, і не звонка*
*Для вас, абшары родныя, для вас,*

*Шчымліва*
*Адчуваючы душой*
*Закончаную яснасць у прыродзе,*
*І ў жураўліным сцішаным палёце,*
*І ў засцюдзелай быстрыні рачной.*

*Вулля*
*Шукае позняя пчала.*
*Лагодна-мяккі свет, нібы вашчына.*
*І дабратой прасвечана Айчына*
*У барвах баравіннага святла.*

Яўгенія ЯНІШЧЫЦ

***

*Хаджу па нівах, па лугах азёрных,*
*Начую летуценна ў будане*
*І думаю, чаму мне так прасторна?*
*І песня прылятае да мяне.*

*Прыносіць мне дары свае дуброва*
*То верас, то крыніцу, то грыбок.*
*Ўліваецца, нібы ручай, у мову*
*Палескі нетаропкі гаварок.*

*Злятае па дасвецці галубіным*
*То рыжы ліст, то жоўта-залаты.*
*Упалі задуменна на платы*
*Даспелыя ружовыя рабіны.*

*Хаджу па нівах, па лугах азёрных,*
*Начую летуценна ў будане.*
*Я думаю, чаму мне так прасторна?*
*І песня прылятае да мяне.*

Генадзь БУРАЎКІН

### Ідуць дажджы…

*Ідуць дажджы,*
*Асенняя пара.*
*Заплаканыя вокны спахмурнелі.*
*Аўторка не адрозніш ад нядзелі,*
*Ад бабьляга – шпачынага пяра.*

*За тыдзень свет, здаецца, пастарэў.*
*За вёскай — непралазнае балота.*
*Апошняя цяжкая пазалота*
*Злятае з абсвістаных ветрам дрэў…*

*А потым сонца высвеціць блакіт,*
*І дрэвы ўміг ізноў памаладзелі,*
*І над ракою ў золаце нядзелі —*
*Наструнены постаці ракіт…*

*Заблытаны лісткі календара.*
*У чыстым небе, маладым і сінім,*
*Пераплыліся промні з павуціннем…*
*Ах, восень, пераходная пара…*

# ЧАС ВЯРТАННЯ, або МОЙ ШЛЯХ ДА НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

Ала ПЕТРУШКЕВІЧ

Лета, 1989 год. Курсы настаўнікаў у Інстытуце ўдасканалення ў Гародні. Слухаю лекцыю Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча пра творчасць беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў. Між іншым размова ідзе і пра паэзію Наталлі Арсенневай.

Да таго гэтае імя сустракала ў друку. Але ніколі ў часе вучобы на філалагічным факультэце. Аляксей Міхайлавіч раіць набыць кнігу «Туга па Радзіме», якая нядаўна выйшла. Не думала тады, што гэта будзе першая кніга ў маім неблагім на сёння зборы твораў беларускіх эмігрантаў. Як не марыла нават, што праз нейкі час менавіта мне давядзецца прапанаваць у Гродзенскім дзяржуніверсітэце для студэнтаў беларускага аддзялення курс «Творчасць пісьменнікаў беларускага замежжа»...

Напачатку 90-х, калі працавала над дысертацыяй па творчасці Дануты Бічэль, пачула ад кіраўніка, акадэміка Івана Якаўлевіча Навуменкі:

— Што гэта ваша Данута адна, як Піліп з канапель, выскачыла? Каго яшчэ побач паставіце?

— Ларысу Геніюш.

— Пастаўце і Наталлю Арсенневу. Але ж і кампанія!

І калі я пабедавала, што больш няма дзе прачытаць яе вершаў, апроч як у анталогіі «Туга па Радзіме», падказаў, што ў аддзеле рэдкай кнігі акадэмічнай бібліятэкі ёсць першы зборнік паэткі «Пад сінім небам».

Лішне казаць, што ў той жа дзень я ўжо трымала ў руках тую кнігу. Падборка вершаў у анталогіі, як мне здавалася, зусім не благая, сама паэтка, праўда, была не надта задаволена («падбор твораў нейкі дзіўны»). Але чамусьці тыя вершы і блізка не зрабілі на мяне такога ўражання, як тая незвычайная кніга.

Яна і сапраўды незвычайная. У руках яе трымала сама Наталля Арсеннева. І бацька Максіма Багдановіча Адам Ягоравіч, якому кніга і была падаравана. «Бацьку майго ўлюбёнага паэты...» — аўтограф паэткі сведчыў пра тое.

Не магла адвесці вачэй ні ад гэтага надпісу, ні ад фотаздымка, ні ад сціплай, але такой далікатна-прыгожай зжаўцела-белага колеру вокладкі. І вершы ўспрымаліся зусім па-іншаму. Ад іх веяла такой пяшчотай, такой выкшталцона-жаноцкай тугой па высокім сінім небе, па золаце восені. І чымсьці, што нельга вытлумачыць проста словам, а толькі вершам, тымі яе вершамі.

Увесь час, чытаючы паэтычныя радкі, бачыла яе, уяўляла нават, як яна выглядае, як апранута. Мо смешна, але здавалася, што адчуваю водар яе парфумы... Не заўважыла, як закончыўся дзень, бібліятэкарка ветліва папрасіла вярнуць кнігу.

Назаўтра зранку я зноў трымала гэтую кнігу ў руках. Напэўна, гэта праўда: чалавек прыцягвае да сябе тое, што жадае мець.



Наталля Арсеннева і Максім Танк. Вільня, 1936 г.

Наступная сустрэча з паэзіяй Наталлі Арсенневай адбылася ўжо ў часе маёй працы ва ўніверсітэце. Здавалася б, зусім выпадкова атрымала ў якасці падарунка ад калегі з суседняй кафедры кнігу. Выпадкова зайшла да іх, ён таксама выпадкова з'явіўся там, нешта патрэбна было яму ў сейфе, дзе, апроч усяго іншага, ляжалі кнігі, якія ён атрымліваў з Амерыкі. Узяў адну і працягнуў мне. «Дару. Напэўна, табе гэта спатрэбіцца», — было сказана як пра нейкае звычайнае выданне, якое лёгка можна было набыць у кожнай кнігарні.

А была гэта кніга, што стане адной з самых дарагіх для мяне ў маёй бібліятэцы, — Наталля Арсеннева. Між берагамі.

Адзіная, якую нікому ніколі не пазычаю, бо не магу дазволіць сабе страціць яе, як тое ўжо здарылася з многімі. Заўсёды прыношу яе на лекцыі і паказваю студэнтам, але папярэджваю, што кніга не выдаецца.

Менавіта тады, калі займела гэтае выданне, вырашыла, што распрацую для студэнтаў курс пра тую нашу міжберагавую літаратуру. «Між берагамі» — гэта кніга, атрымаўшы якую, Наталля Арсеннева (як яна пра тое сведчыла пазней) адчула сябе паэткай.

Заканчэнне на стар. 3 »

# З асаблівага роду

Генрых ДАЛІДОВІЧ

Бадай, для многіх і цяпер яна, зямная жанчына з незвычайнага роду, паэтка, па-ранейшаму застаецца загадкай.

Чаму, выхаваная ў расейскім асяроддзі, пачала не толькі пісаць па-беларуску, але да самай глыбіні душы праніклася нацыянальнай ідэяй і ўсё свядомае жыццё асвечвалася беларускімі нацыянальнымі сімваламі?

Чаму яна дзейнічала менавіта так, як спаўняла свае жыццёвыя і творчыя ўчынкі?

Чаму, урэшце, адны яе і цяпер зусім не ведаюць, а іншыя шчыра ўшаноўваюць альбо папікаюць ва ўсіх смяротных грахах?

Вось і разбярыся: калі Святое Пісанне заклікае маральна не судзіць, бо і сам маральна судзімы будзеш...

Пэўныя адказы на гэтыя і іншыя пытанні ёсць. Да беларускасці яе далучыла ў многім абеларушаная на пачатак XIX стагоддзя Вільня, паводзіны яе, прыезджай у гэты горад, бурна вызначылі ўмовы існавання пры даваенных таталітарных польскай і савецкай уладах, горкае спазнанне сістэмы Гулагу і нямецка-фашысцкай акупацыі. Выстаяць у гэтых абставінах ёй, шляхетнай, з высокімі маральнымі прынцыпамі жанчыне, было вельмі няпроста. Невядома, хто з яе крытыкаў у тых стасунках мог бы паводзіцца інакш, нават паўтарыў бы такую ж вытрымку, здолеў бы пісаць вершы без ніякіх надрыву і злосці.

Яна ж была верная запавету, выказанаму яшчэ ў адным з першых вершаў у 1925 годзе: «Усё, што ў сэрцы жыве і пяе, — Вершы мае...». Яна — «паэта чыстае красы». Яе хвалявалі не рэвалюцыйныя ўзрушэнні і буры, не нейкія «генеральныя лініі», а гістарычная памяць народа, хараство прыроды, фарбы роднай зямлі, жаночыя і мацярынскія пачуцці. Гэта — своеасаблівы паэт. Ды, можа, не накірунку свайго славутага продка Лермантава, а такіх, якімі ў рускай паэзіі былі Цютчаў і Фет. Яна ўглыбіла ў сябе рускасць розумам, але душа яе нечакана заспявала беларускасцю...

Загадкавая Яна — гэта Наталля Арсеннева. **Яна пабачыла свет 120 гадоў таму** — 20 верасня 1903-га — у азербайджанскім горадзе Баку. Бацька яе паходзіў са славутага роду Арсенневых (які па жаночай лініі і вызначыўся славутым прозвішчам рускага пісьменніка Міхаіла Лермантава). Зразумела, яна змалку была далучаная да выдатнай творчасці роднаснага генія, але і з юных гадоў адчула магію беларускай мовы і паэзіі.

Гэтаму паспрыяла тое, што яе сям'я пераехала ў Вільню. Там гімназісткай Н. Арсеннева пазнаёмілася з многімі беларускімі творцамі. Таму не выпадкова пазней выбрала шлях служэння беларускай асвеце і культуры, дзеля чаго ў 1921 годзе скончыла курсы настаўнікаў беларускіх школ (на гэтым этапе мо і вызначальны выбар ёй паспрыялі зрабіць выкладчык, пісьменнік, вельмі абаяльны чалавек Максім Гарэцкі і навуковец-публіцыст Браніслаў Тарашкевіч).

Вучылася паэтка і ў Віленскім універсітэце. Праўда, яна не закончыла вучобу, выйшла замуж за ўраджэнца Валожыншчыны, удзельніка Першай сусветнай вайны, які намагаўся спалучыць маласпалучальнае: службу афіцэрам у польскай арміі і дзейнасць беларускага палітыка.

Каханне падарыла ім першынца — сына Яраслава (загіне ў Менску ў 1943-м разам з іншымі маладымі беларускімі гуртκоўцамі ў Купалаўскім тэатры ад узарванай партызанамі міны). Знойдзецца час закончыць і ў 1927 годзе выдаць першую кнігу паэзіі «Пад сінім небам». Менавіта — не зборнік, а кнігу: яна і цяпер падаецца выбраным з раней напісанага.

У выданні сабраныя творы розных жанраў за паўдзясятка гадоў (вершы, вершаваныя апавяданні, паэма). Да ўсяго творы шматтэмныя і зусім не на пачаткоўскім узроўні. І не выпадкова гэтую кнігу дэбютанткі высока ацэнілі многія вядомыя знаўцы паэзіі...

Ды жыццё для такой незвычайна-загадкавай, рускай па выхаванні, а беларускай па духу паэтэсы не будзе бясхмарнае. І не толькі тым, што сям'і вайскоўца нялёгка ад побытавых турбот. З'явяцца іншыя, больш цяжкія выпрабаванні. Хоць муж у 1939-м удзельнічаў у вайне з фашызмам, але ўсё роўна быў інтэрнаваны савецкімі войскамі. А яна, хоць лаяльна аднеслася да савецкай улады, пачала працаваць у савецкай газеце «Вілейская праўда» і нават дапамагала напісаць «Пісьмо таварышу Сталіну ад працоўных Заходняй Беларусі», з двума сынамі была высланая ў Казахстан. На той час без ніякай віны вінаватая...

Тыя, хто высока адзначалі яе чалавечую інтэлігентнасць, глыбокі патрыятызм, арыгінальную творчасць (Янка Купала, Максім Танк і інш.), здолелі ў 1941-м вярнуць выгнанніцу на Радзіму. Акрыялая паэтэса пачала рыхтаваць новы зборнік паэзіі, ды выйсці яму перашкодзіла вайна. У час яе муж прымаў удзел у фармаванні беларускіх вайсковых сіл пад нямецкім камандаваннем, а яна ў асноўным па-ранейшаму займалася хатнімі клопатамі, удзельнічала ў Менску ў культурна-асветнай рабоце і пісала вершы.

У кнізе «Сягоньня» (1944) асуджала вайну, яе жорсткасць і, як напісана ў энцыклапедычным даведніку «Беларусь» (Мн., 1995), «не падзяляла ўдзельнікаў вайны на «сваіх» і «чужых»; успрымала вайну як наканаванасць, якой яна бяссільная супрацьстаяць».

У 1944-м выехала ў Нямеччыну, у 1950-м — у ЗША, дзе жыла да апошніх дзён. У 1979 годзе выдала паэтычны зборнік «Між берагамі».

Як і ў іншых паэтаў-эмігрантаў, у яе творчасці пасляваеннага часу таксама былі моцныя матывы ўспамінаў, настальгія па Бацькаўшчыне з усімі яе праявамі, адданасць беларускай нацыянальнай справе.

Наталля Арсеннева — аўтар эміграцкага гімна (верш «Магутны Божа»).

У 1992 годзе ў Мінску ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» факсімільна быў перавыдадзены яе зборнік «Пад сінім небам», дзе дадаткова былі змешчаныя яе кароткая біяграфія, прадмова (Яўген Лецка) і датаваныя 1928 годам выказванні Максіма Гарэцкага. Прызнаны майстра ўжо тады залічыў аўтарку першай кнігі ў лік «выдатных іменняў», вершы якой «не вызначаюцца нейкай асаблівай бліскучасцю, але яны захопліваюць шчырасцю пачуцця, далікатнага тону і нейкаю асабліваю пяшчотнасцю вобразаў і слоў...».

Здаецца, паэтка годна апраўдала і надзеі Максіма Гарэцкага, і свой дэвіз, выказаны яшчэ ў 1922 годзе ў вершы «Мэта жыцця»:

*...Мэта жыцця, кажуць, гэта — хаваці*
*Сэрца ад смуткаў і сьлёзаў ня знаці.*
*Думкі аб праўдзе... Гэт, глупства усё,*
*Мэта жыцця — захаваці жыццё!*

# ЧАС ВЯРТАННЯ, або МОЙ ШЛЯХ ДА НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 2

Вокладка колеру марской хвалі, ярка-бірузовая, у цэнтры залатым цісненнем профіль аўтаркі. Прадмова самага знакамітага эміграцкага крытыка Антона Адамовіча, якая і сёння ўспрымаецца як вельмі цікавае, цэласнае, грунтоўнае даследаванне і жыццёвага шляху, і творчасці паэткі.

Змешчаны партрэт работы Пётры Мірановіча. Прыгожая жанчына прыгожа-восеньскага веку, часу залатой, жоўтай восені. Размытыя абрысы. Толькі выразна вылучаюцца вочы, яркія, цёмныя. І столькі ў іх болю, столькі стратаў адбілася. А погляд — удалечыню, напоўнены мудрасцю і тым унутраным спакоем, якога здольны дасягнуць натуры моцныя, нескароныя.

Не ведаю, у якіх колерах выканаваны партрэт, але ўяўляю, што ў блякла-жоўта-залатых. Пра паперу адмыслоўцы, напэўна, могуць сказаць: няякасная. А як па мне, то цудоўная, моцная і пажоўклая, як тая згадка ў эпіграфе Максіма Багдановіча да ягонага «Вянка».

«Між страніц старых, пажоўклых» заўсёды знаходжу для сябе тое, што дапамагае выжыць і ў пару вясноўю, калі неба такое сіняе-сіняе, а ў душы холадна-холадна, і асабліва ў пару залатой восені, калі так адчувальны подых сцюжы…

Зімой 1998 года ў нашы школы паступіў указ, у выглядзе тэлефоннага званка, пра забарону вывучэння творчасці Наталлі Арсенневай, Ларысы Геніюш, Масея Сяднёва. Прамаўчаць было нельга. Напісала артыкул, які так і называўся: «Ці можна сёння прамаўчаць?». Ён быў апублікаваны ў «ЛіМе» 25 мая 1998 года пад назвай «Ці дажывём?..». Зразумела, нічога змяніць не здолеў. Сёння такое ў «ЛіМе» не публікуюць. Газета творчай інтэлігенцыі не згадала нават пра высокі юбілей паэткі. Затое палічыла магчымым пакінуць абразлівыя выказванні на яе адрас з даклада літаратурнага генерала на з'ездзе…

Да практычных заняткаў па творчасці Наталлі Арсенневай прапаноўваю студэнтам згадаць, што ведалі раней пра паэтку, ці вывучалі ў школе. Дзесьці да 2000 года большасць адказаў былі амаль аднолькавымі: ведалі гэтае імя, вывучалі ў школе паэзію. Пазней многія студэнты гаварылі пра тое, што або ніколі не чулі нават імя, або калі і чулі, то нічога не ведалі пра яе творчасць.

Самая недарэчная сітуацыя сёння: ніхто са студэнтаў-першакурснікаў ніколі не чуў імя паэткі. Як і імя Ларысы Геніюш.

А раней былі вельмі цікавыя выключэнні. Аднойчы пачула такі аповед. Студэнтка працавала летам у дзіцячым садку ў заходнебеларускім мястэчку. У адным з пакояў, на ўсю сцяну, па-мастацку напісаныя словы «Малітвы». Спытала ў дзяцей: «Што гэта такое?». Малыя адказалі: «А хіба вы не ведаеце? Гэта ж наш гімн «Магутны Божа»!». Якім жа было маё здзіўленне, калі на пытанне, хто тая патрыётка-выхавацелька, пачула: «Ваша аднакурсніца». І назвала імя вельмі мілай, прыгожай дзяўчынкі, якая ў студэнцкія часы не вельмі ўлягала за навукай, здавалася, была зусім абыякавай да нейкіх нацыянальных праяваў жыцця. «Яна і ёсць тая дзіўная, бо зрабіла тое, чаго ад яе не чакалі», — гэтак ахарактарызаваў яе наш калега прафесар Ігар Васільевіч Жук, калі пасля заняткаў расказала на кафедры пра вельмі прыемны для мяне выпадак.

Параўнальна нядаўна пачула аповед, як дырэктар школы ў адным з гарадоў, што на Гарадзеншчыне, падкрэсліваў у размовах з вучнямі, што сапраўдным гімнам Беларусі з'яўляецца «Магутны Божа». І гэта ў наш час! Ёсць жа яшчэ і дырэктары!.. Дзяўчынка запомніла гэта.

Як ім, вучням, важным бывае слова настаўніка. Як часта яно па́дае на вельмі ўрадлівую глебу. Менавіта пра гэта не раз чула ад аднаго з самых лепшых нашых беларускіх настаўнікаў з Гудзевічаў Алеся Мікалаевіча Белакоза.

Адна са студэнтак вучылася ў музычнай школе, спявала ў хоры. Песня, якую выконвалі амаль заўсёды, — «Магутны Божа». З тых часоў памятала яе, але імя паэткі не ведала. Наогул, часта студэнты памятаюць малітву, якую яны чулі ці спявалі ў касцёле. Але вельмі рэдка ведаюць імя аўтаркі верша.

Апошнім часам усё меней аповедаў пра Наталлю Арсенневу. Варыяцыі на адну і тую ж тэму: нічога не ведала са школы, вельмі шкада, што паэзія не вывучаецца. Дабавілася яшчэ адно нечаканае ўспрыняцце: калі ў школе ў аглядзе сучаснай паэзіі пачула гэтае імя, падумала, што гэта маладая сучасная паэтка. Студэнтка-выдатніца, у тым часе вучаніца-выдатніца, у якасці прызу на алімпіядзе па роднай мове атрымала кнігу Лідзіі Савік «Пакліканыя» (Які цуд! Як бы ні глядзелі ўсе іх ідэалагічна-вертыкальныя цэнзары, усё ж і нашы кнігі даходзяць нават да школьнікаў і такім чынам). Тады і прачытала ўпершыню гэтае імя. Але тэкст падаўся занадта складаным, чытаць не стала, а вось ужо ва ўніверсітэце!..

Спаўняецца чарговы — 120-ы — юбілей з дня нараджэння Наталлі Арсенневай, чыя творчасць усё яшчэ не можа вольна вярнуцца ў Беларусь, так, як ніколі не вярнулася сюды аўтарка.

У лісце да яе літаратара Антона Адамовіча чытаем: «Вы зусім правільна пісалі, што Вас будуць чытаць і разумець па сьмерці. Гэта ж з паэтамі часта бывае, а з запраўднымі — бадай заўсёды».

Час — чытаць і разумець творы паэткі — хіба ж не прыйшоў?

Наталля Арсеннева, бясспрэчна, вартая таго, каб яе кнігі і кнігі пра яе з'яўляліся…

# «А раптам прачытае Купала?!»

## Да 110-годдзя Сяргея ГРАХОЎСКАГА

Мікола ЛЯШЧУН

У канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя мне пашчасціла пазнаёміцца з цудоўным чалавекам (светлая ёй памяць) — Марыяй Міхайлаўнай Мікуліч, сястрой Барыса Мікуліча, цудоўнага беларускага празаіка з няпростым і надзвычай трагічным лёсам. Арганізатарка і нястомная захавальніца школьнага музея «Літаратурная Лагойшчына» Вера Рыгораўна Саўрыцкая неаднойчы запрашала яе на сустрэчы, паколькі пачэснае месца было адведзена на музейным стэндзе Барысу Мікулічу, жыццё якога і многія творы былі цесна звязаны з лагойскай зямлёй.

Я невыпадкова ўзгадаў пра гэтае знаёмства, бо менавіта Марыя Міхайлаўна прапанавала мне ласку праз яе паказаць свае вершы Сяргею Грахоўскаму, з якім Барыс Мікуліч доўга і прыязна таварышаваў у гады творчай маладосці, пакуль ліхое і бесчалавечнае жыццё не разлучыла іх навечна.

Ці то па неабачлівасці, ці то спяшаючыся, але я аддаў на ўгледзіны Сяргею Грахоўскаму не лепшыя свае вершы, а дакладней сказаць — апошнія напісаныя, сыраватыя, неабкатаныя, неадляжаныя…

На ўсё жыццё запомніў я тую навуку майстра беларускай паэзіі, але не толькі навуку, а нешта большае…

Калі зачынялі Беларуцкую школу імя Янкі Купалы, я з бібліятэкаркай нашай школы паехалі па «спадчыну» — забіраць кнігі ў сваю школьную бібліятэку. Паколькі мне выпала папрацаваць у славутай школе колькі часу, я папрасіў падараваць мне сёе-тое са спісаных кніг. На прапанову выбраць самому, пакваліўся на збор твораў Уладзіміра Караткевіча і некалькі кніг знаёмых са школы аўтараў.



Сяргей Грахоўскі. 1980-я гады

Пагартаў «Так і было. Артыкулы. Успаміны. Эсэ» Сяргея Грахоўскага і… не мог адарвацца. З якой дакладнасцю, любоўю, пяшчотай і замілаванасцю аўтар узгадвае далёкія даваенныя сустрэчы, знаёмствы, сяброўствы з многімі вялікімі творчымі людзьмі нашай Беларусі. Не магу ўстрымацца, каб не працытаваць хоць трошкі аўтара:

«…купляю ў кіёску некалькі экзэмпляраў часопіса «Беларусь калгасная». У другім нумары новага часопіса — мой верш «Гідрастанцыя»… Разгарнуў і любуюся лесвічкамі і прыступкамі сваіх радкоў. У гэтым жа нумары надрукаваны «Ударніку» і «Заўсёды наперад» Янкі Купалы. Пакуль гартаў часопіс, да кіёска падышоў Іван Дамінікавіч, павітаўся з кіяскёрам і са мною. "Калі нацешыўся сваім творам, дык хадзем са мною". Ішлі, маўчалі. Так карцела пачуць Купалаву пахвалу. Ён, відаць, адчуў маю скаванасць і загаварыў сам: "Пакуль чытаў твой верш, ну ж і накульгаўся, не раўнуючы, па шпалах сігаў і ўсё з нагі збіваўся. Навошта так ламаць радок?..". Я вінавата апусціў галаву. Дзядзька Янка зірнуў і суцешыў: "Не журыся. Я так, на будучае, каб меней трэску было. Як на цяперашні час, дык вершык ніштаваты. Чытай".

Пасля гэтага я баяўся абы-што друкаваць. А раптам прачытае Купала? Мы развіталіся на рагу Ленінскай. Я пайшоў бязмэтна блукаць з вуліцы ў вуліцу. Не хацелася ні з кім сустракацца. Было брыдка за "драбіны", за трэск, за несапраўднае, напісанае — абы надрукавалі. З купленых часопісаў пакінуў адзін, астатнія цішком сунуў у нейкую сметніцу.

Купалавы ўрокі і цяпер для мяне — перасцярога ад пустаты, фальшу, самаўпэўненасці. Словы яго чую і сёння».

Перачытаў яшчэ раз гэтыя радкі і ўспомніў, што мне напісаў у адказ Сяргей Іванавіч Грахоўскі. Дарэчы, у сваё 75-годдзе, бо дасланы канвэрт быў пазначаны 26 верасня.

Для мяне гэта яшчэ таксама было вялікім уражаннем, што вядомы паэт так уважліва аднёсся да пачаткоўца, не ведаючы яго ні ў твар, не прачытаўшы ніводнага ягонага твора ў друку.

Я і тады, і цяпер не раз думаў аб тым, як гэта важна: сустрэцца ў жыцці з сапраўдным настаўнікам, колькі б я мог навучыцца, каб выпала пазнаёміцца з ім асабіста і хоць трошачкі пасябраваць.

Зноў і зноў перачытваю ўспаміны Сяргея Грахоўскага і шчыра зайздрошчу ды захапляюся тым, як яны ўмелі сябраваць!..

Вось адкуль тая ўвага і цікавасць да пачынаючых аўтараў, вось адкуль тыя парасткі выхавання характару і душы! Вось над чым варта задумацца сённяшнім творцам: думаць аб тых, хто будзе ствараць літаратуру пасля іх.

А напісаў Сяргей Іванавіч Грахоўскі, папрасіўшы загадзя прабачэння, што так «скрэмзаў» мае творы, наступнае:

«Паважаны Мікалай Міхайлавіч! М. М. Мікуліч папрасіла пачытаць Вашы вершы. Прабачце, што так іх скрэмзаў.

Добра, што Вам хочацца пісаць, але аднаго жадання мала. У Вас пакуль што ўсё другаснае, вядомае, знаёмае і напісана нязграбна, без валодання тэхнікай верша, нават без адчування рытму.

Вучыцца і працаваць Вам трэба настойліва і ўпарта. А настаўнікі — на кніжных паліцах.

Поспехаў Вам.

С. Грахоўскі».

Я не памятаю, ці блукаў я, самотны, па вуліцах, як у свій час Сяргей Грахоўскі пасля Купалавага «хрышчэння», аднак навуку тую засвоіў да скону. І цяпер, калі зрэдчасу даводзіцца чытаць творы пачаткоўцаў, я думаю аб тым, што шмат каму не хапае такіх творчых урокаў.

Але памятаю вельмі добра: пасля завочнай сустрэчы з адметным майстрам беларускага паэтычнага слова Сяргеем Грахоўскім я не кінуў пісаць вершы, не стаў дасылаць у рэдакцыі пустыя, фальшывыя радкі, а ўпарта і настойліва, як параіў старэйшы сябар, стаў працаваць над словам, формай і зместам — і толькі праз некалькі гадоў асмеліўся даслаць вершы ў «ЛіМ». І цяпер, дасылаючы нізку вершаў у які-небудзь літаратурны часопіс, я сто разоў іх перагледжу, параюся нават з маладзейшымі аўтарамі, бо ніколі не забываю словы Сяргея Іванавіча: «А раптам прачытае Купала?!».




Мемарыяльная шыльда на доме, дзе жыў пісьменнік. Мінск, пр. Незалежнасці, 47.

# Кава апоўначы



Вінцэсь МУДРОЎ

Рыгор Мікалаевіч — малады, збольшага непітушчы кандыдат навук — выбег з ваннага пакоя і, пакідаючы на падлозе сляды мокрых ног, наблізіўся да шафы. Адсунуўшы шуфляду, дзе ляжала ніжняя бялізна, ён выцягнуў адтуль трыкатажныя трусы фірмы «Puma», нацягнуў на жылістыя клубы і заклапочана спахмурнеў: жоўтая пляма так і не адмылася. Памацаўшы яе дрогкім пальцам, кандыдат перакрывіўся і ўжо без ранейшага імпэту стаў насоўваць праз галаву выхадную кашулю.

У галаве тым часам віравалі лічбы: чатыры тысячы трэба будзе аддаць за шампан, дзевяць тысяч за ружы, яшчэ тысячу «пацягнуць» новыя шкарпэткі: старыя ўсе скрозь прадзерліся. Агулам — чатырнаццаць тысячаў. Шостая частка выкладчыцкага заробку. Як для яго — вялікія грошы.

— У-ф-ф! — выдыхнуў Рыгор і тут жа застыў, зачараваны. Яму ўявіліся важкія дзявочыя грудзі, прымроіліся гладкія, шырока рассунутыя калені, вуха крануўся гарачы Зінчын шэпт, — і кандыдат, забыўшыся на грошы, захоплена пацёр спацелыя далоні.

Рыгор быў старым кавалерам і ўжо не першы год марыў аб жаніцьбе. Знайсці ў сталым веку годную жонку наагул цяжка, а тут яшчэ прыродная сціпласць, няўпэўненасць у сабе, кволыя заробкі…

Карацей, злядашчыў Рыгор без жонкі. І вось акурат сёння, з халасяцкай слязінай у сэрцы, сустракаў кандыдат сваё трыццаціроддзе. Адранку — была такая інстытуцкая завядзёнка — прынёс на кафедру дзве пляшкі гарэлкі, кілё памаранчаў, яшчэ нейкую закусь і, пад час сяброўскай бяседы, пачуў ад калегаў шмат добрых словаў на свой адрас.

«Адно кепска, Рыгор Мікалаевіч, — выгукнула напрыканцы бяседы загадчыца кафедры Еўдакея Ферапонтаўна, — не маеш ты спадарожніцы жыцця». Распалавініўшы памаранчу, загадчыца выцерла рукі аб насоўку і жартам прамовіла: «А вунь Зіначка Якуніна… чым ня па́ра? Маладая, энэргічная… кандыдацкую піша…».

Пасля такіх словаў Зіначка Якуніна густа пачырванела і абдарыла Рыгора Мікалаевіча шматабяцальнай усмешкай. Гэтая самая Зіначка працавала на суседняй кафедры і патрапіла на бяседу выпадкова — прынесла нейкія паперы і, вядома ж, мусіла выпіць за здароўе юбіляра. Дагэтуль Рыгор не звяртаў на Зіначку аніякай увагі: была яна на пяць гадоў старэйшай, на два пальцы вышэйшай, і нос мела кірпаты. Але тут штосьці зварухнулася пад сэрцам, і юбіляр, паправіўшы скасабочаны гальштук, убачыў, што Зіначка Якуніна прывабная жанчына і да таго ж — пра гэта яму гучным шэптам паведаміла Еўдакея Ферапонтаўна — мае ўласную двухпакаёвую кватэру. Рыгор праводзіў Зіначку дахаты.

Яны ішлі па шумных вуліцах, бязладна гаманілі, і з кожным крокам у душы Рыгоравай расло, убіралася ў сілу пачуццё хмельнай радасці з дамешкам восеньскага суму. Сум навявала бязважкая павучынка, што трымцела ў валасах спадарожніцы. Павучынка спрабавала зляцець у свой недалёкі вырай, але здолела гэта зрабіць толькі на парозе Зінчынага дома. Рыгор трапятліва зняў яе, пусціў па ветры, і Зіначка, ачараваная такім абыходжаннем, ледзь чутна пралепятала: «Дык можа зойдзем да мяне? Пачастую Вас кавай…».

Прапанова прагучала знянацку, і ў Рыгора ад нечаканасці нават закружылася галава. «Трусы падзертыя… памыцца трэба… кветку якую ўзяць…», — завіравалі ў галаве бязладныя думкі, і кандыдат, пералічыўшы квадраты вокнаў у Зінчыным пад'ездзе, у сваю чаргу шапялява прамармытаў: «А можна… увечары?».

Жанчына з гатовай радасцю кіўнула, і яны развіталіся на доўгія дзве гадзіны.

А восьмай вечара пад гукі музычнай застаўкі тэлепраграмы «Час» — у адной з кватэраў тэлебачар працаваў на поўную гучнасць, — кандыдат увайшоў у прыцемны пад'езд, падняўся на другі паверх і застыў перад браніраванымі дзвярыма. Перакінуўшы з левай рукі ў правую букет жоўтых ружаў (хацеў узяць чырвоных, ды не было ў продажы), Рыгор з шумам перавёў дых, памкнуўся націснуць гузік званка, ды дзверы знянацку адчыніліся, і на парозе паўстала гаспадыня кватэры. Была яна ў белай празрыстай сукенцы і з чырвоным бантам у валасах.

— А вось і мы! — гукнуў кандыдат, злавіўшы вокам смочкі грудзей, што прабіваліся скрозь сукенку, і элегантным рухам — дзьвюма рукамі — перадаў даме кветкі.

— Ой, Рыгор Мікалаевіч… ну навошта такія выдаткі? — з інтанацыяй лёгкай панікі прамовіла жанчына, прыціснула да твару бутоны і, увабраўшы носам паветра, прашаптала: — Божухна, які пах!

Рыгор Мікалаевіч пераступіў парог, другім разам перавёў дых, і толькі тады згадаў, што прыйшоў на спатканне з жанчынай у туфлях на босую нагу. Шкарпэткі ён набыў па дарозе, ды забыўся нацягнуць — і цяпер застыў ля дзвярэй, чакаючы, калі гаспадыня сыйдзе з калідору. Тая, аднак, не сыходзіла.

— Ну што ж Вы, Рыгор Мікалаевіч, не саромцеся. Будзьце як дома. Вось Вам тапкі, — гаспадыня кватэры нагнулася, яшчэ раз прашаптала: — Які пах! — падсунула да Рыгоравых ног мяккія жаночыя тапкі.

Госць муляўся ля ўваходу, і гаспадыня, па-свойму зразумеўшы сітуацыю, адчыніла дзверы прыбіральні.

«Лажануўся», — падумаў Рыгор, нацягнуўшы шкарпэткі і, каб пераканаць гаспадыню, што яго прыпёрла ўсяго толькі па малой патрэбе, тузануў фаянсавую гіру й борзда выслізнуў з прыбіральні.

— Калі б вы ведалі — як я люблю жоўтыя ружы! — Зіначка завіхалася недзе ў кухні, і Рыгор, дастаўшы з поліэтыленавай торбы бутэльку шампану, агледзеўся. Пасярод пакоя стаяў сервіраваны на дзве персоны стол. На стале гарэлі васкоўкі, і палахлівыя вогнікі цьмяна бліскалі на металёвым цэптэраўскім посудзе, на ножках высокіх фужэраў, на баку пузатай бутэлькі. «Camus» — мільганулі ўваччу залацістыя літары, і Рыгор, уздыхнуўшы, прысуседзіў да пляшкі дарагога французкага каньяку бутэльку таннага айчыннага шампану…

Ад выпітага кружылася галава і зыбалася падлога.

— Еўдакея Ферапонтаўна шмат пра вас казала, — гаспадыня кватэры каторым ужо разам наблізіла твар да ружаў.



Фота cofte.kz

— А што канкрэтна? — госць у сваю чаргу паднёс да носу фужэр, удыхнуў шакаладны пах французкага каньяку.

Замест адказу жанчына панурыла вочы, прыкусіла ніжнюю губу, і Рыгор зразумеў, што Зіначка забегла сёння на кафедру не выпадкова. Госць, з адчуваннем лёгкай перавагі (сам ён абараніўся яшчэ пазалетась), змяніў тэму гаворкі:

— Ну, а як кандыдацкая?

— Засталося стылістыку паправіць… — адказала Зіначка, і Рыгор падскочыў у крэсле.

— Стылістыку? Ды я яе ўжо траім правіў! — кандыдат памкнуўся зараз жа ўзяцца за справу, але гаспадыня яго спыніла.

— Ну што вы, Рыгор Мікалаевіч… у нас яшчэ будзе час… — жанчына млявай рукой папоўніла ягоны келіх, — ці не так?

Полымя ўсіх трох свечак гайданулася, твар гаспадыні дзіўным чынам засвяціўся знутры, і душу Рыгораву працяў нервовы халадок.

— Зіначка… у нас напeрадзе цэлае… — ён не дагаварыў: захлынуўся ад хмельнага шчасця, якое аж па край напоўніла грудзіну.

Рухавыя вогнікі свечак мільганулі ў жаночых вачах, і Зіначка падхапілася на ногі. Яна відавочна хацела адцягнуць, затрымаць хвіліну галавакружных прызнанняў.

— А вы памятаеце, Рыгор Мікалаевіч, дзеля чаго я вас запрасіла?

Рыгор Мікалаевіч п'янавата тарғануў плячыма.

— Хацела пачаставаць каваю. Ды не паспела змалоць, — гаспадыня выйшла ў кухню і ўжо адтуль гукала госцю: — Так што закасвайце рукавы. Цэлы пачак сёння купіла.

Госць кульнуў дзеля смеласці фужэр каньяку, кінуў у рот скрылёк цытрыны й таксама падаўся на кухню. Зіначка сядзела на кукішках і поркалася ў кухонным буфеце.

— Кавамолка, праўда, дапатопная. Яшчэ ад прадзеда засталася, — Зінчын задок напята пукаціўся, і Рыгор, аблашчыўшы вачыма спакуслівую лагчынку, што падзяляла яго на дзве палавіны, аж застагнаў ад юрлівай змогі. — Каб пачак змалоць, трэба круціць цэлыя суткі.

Кавамолка была і сапраўды дапатопная. Шэрая, з рэшткамі брунатнага лаку, яна нагадвала мініяцюрную катрынку, і, здавалася, крутні выгінастую корбу — і кавамолка абзавецца звяглівымі зыкамі.

Рыгор агледзеў млынок з усіх бакоў і на прыбітай спадыспаду бляшцы разабраў зацёрты надпіс: «Заводъ "Везувій". 1904 годъ». Гаспадыня засыпала ў кавамолку жменю пахкіх зярнятаў, і госць з шалёным імпэтам крутнуў корбу.

— Не так шпарка, Рыгор Мікалаевіч. Круціць трэба паволі, каб зерне паспявала патрапіць у жорны.

Рыгор запаволіў хуткасць, і першыя зярняты з лёгкім храбусценнем перацёрліся на мліва. Гукі гэтыя лагодзілі слых. І наагул, малоць каву на старажытным млынку было надзвычай прыемным заняткам, і калі, хвілін праз пяць, гаспадыня зайшла ў кухню і тарганула галавою, госць адказаў ёй белазубай, па-дзіцячы наіўнай усмешкай. У гэтым была нейкая зачараванасць, нейкае насланнё. Рыгор круціў корбу, і разам з корбай круціліся кухонныя сцены, газавая пліта, насценны гадзіннік, двухкамерная лядоўня «Ака», і ўвесь свет раскручваўся навокал, і кружэнне гэтае спынілася толькі тады, калі за спінай бразнулі дзверы і хтосьці голасна вымавіў ягонае імя.

Гэта была Зіначка: яна з нецярплівасцю ляпала па далоні донцам меднай туркі.

— Зіначка… яшчэ крыху, — малітоўна прашаптаў Рыгор і, звёўшы вочы да пераносся, са здзіўленнем адзначыў, што паспеў змалоць толькі жменьку кававага зерня. Каб не разагнаць, не расплёскаць неасцярожным рухам зачаравання, Рыгор заплюшчыў вочы і шчасна пасміхнуўся. Ён вырашыў змалоць увесь пачак.

— Рыгор Мікалаевіч… вы ўжо паўтары гадзіны круціце… мне заўтра на працу, — пачулася над вухам, але гэтым разам Рыгор нават не азірнуўся. Прыкусіўшы губу, ён малоў каву, і выгінастая корба ў той момант рабіла 1560-ы абарот.

Потым гаспадыня яшчэ пару разоў заходзіла ў кухню. Змучаным голасам казала, што ў яе хворае сэрца, што ёй трэба класціся спаць, тэлефанавала — Рыгор чуў краем вуха — Еўдакеі Ферапонтаўне, нарэшце, сунялася, і Рыгору забрыніла ўвачччу. Зярняты ператварыліся ў прусакоў, заварушыліся перад носам; госць уражана страсянуў галавой, і ў гэты момант на голаў абрынулася штосьці тупое й важкае.

Адзінае, што госць паспеў заўважыць, гэта мэталёвую корбу, якая выслізнула з рукі і гучна ляснулася ў насценны гадзіннік. Стрэлкі гадзінніка застылі на лічбе «12», кухонныя сцены спынілі кругабег, пагрозліва атачыўшы Рыгора з усіх чатырох бакоў. Свет пакінуў круціцца вакол Палярнай зоркі, замёр на імгненне, і за каршэнь Рыгораў ценькім струмком прасыпалася кававае мліва.

Хвіліну ён сядзеў, утуліўшы галаву ў плечы, потым сцярожка, з утуленай галавой, устаў і, як той самнамбул — выставіўшы наперад рукі, рушыў да дзвярэй.

У суседнім пакоі здушана плакала Зіначка.

— Вар'ятка, — вырвалася з Рыгоравай душы, калі ён выходзіў з кватэры.

Дыхнуўшы вохкай прахалоды, кандыдат памацаў пабітую макаўку, выцягнуў са штаноў край кашулі, спрабуючы вытрасці кававае мліва, але яно прыстала да потнага карку й казытліва цвеліла нервы. Нервы цвялілі й туфлі, якія знянацку пачалі ціснуць. Кандыдат ужо памкнуўся зняць іх і закінуць у прыдарожныя кусты, ды ўгледзеў, што насунуў не на тую нагу. Ён сагнуўся, тузануў непадатны шнурок, і на мысок стаптанай туфлі ўпалі дзве скупыя халасяцкія слязіны.

*1990 г.*

***11 верасня наш паважаны аўтар Вінцэсь (Віктар Леанідавіч) МУДРОЎ адзначыў сваё 70-годдзе. Жадаем яму радасці, здароўя і аптымізму!***

# Дабраславёная нерухомасць рэчаў



Магдалена ЛАЕЎСКАЯ

### Жанчыны

*Жанчыны нараджаюць жанчын,*
*якія нараджаюць жанчын.*
*Жанчына за скурай,*
*за лыжкай, за падушкай,*
*за маскай, за мяжой,*
*за вуглом, за дзвярыма,*
*за кра́тамі.*

*Жанчына пад скурай,*
*пад вокам, пад шыяй,*
*пад пазногцем, пад рукой,*
*пад крыжам.*

### Для суцяшэння

*Кожны дзень я даведваюся,*
*колькі мы не паспелі сказаць адзін аднаму.*
*Веды крочаць сваімі сцежкамі*
*з кійком у цемры,*
*з вазком і плачам,*
*з цяжкімі акулярамі на носе*
*і слыхавым апаратам,*
*заблытаным у валасах.*

*А ў вольны час веды рэжуць гародніну*
*кубікамі і падаюць мне праз трубачку.*

*Часам гэта дапамагае расстацца.*

### Рыта-сацработніца

*Рыта любіла старэйшых людзей.*
*Яна заўсёды брала іхнія далоні*
*і чытала мінулае са скручаных пальцаў*
*ды выступаючых вен.*
*Рыта дазваляла старэйшым паўтараць*
*адны і тыя ж гісторыі.*

*Галовы старэйшых людзей мелі птушыную форму.*
*Былі маленькія.*
*Вочы амаль нерухомыя, сухія.*
*Дзюбкі дзяўблі ежу.*
*І ў іх была свая птушыная гаворка,*
*яшчэ не распрацаваная лінгвістамі.*

*Рыта кожны раз, калі сустракала новага*
*старэйшага чалавека,*
*выяўляла падабенства з малюнкамі ў атласе птушак.*

*Была ў Рыты пад апекай*
*спадарыня Ніна Сініца,*
*спадар Уладзімір Гіль,*
*спадарыня Клаўдзія Сойка,*
*спадар Станіслаў Шпак,*
*спадарыня Вераніка Галубка,*
*спадар Лявон Верабейка.*

*Раз-пораз птушка адлятала*
*ў вырай.*
*Рыта запісвала гэта ў белую кнігу.*

### Мара

*Напісаць такі верш,*
*каб усміхнулася Іра з бацькоўскага камітэта,*
*не зважаючы на адсутнасць грошай ад Мішы,*
*у якога тата з універсітэта,*
*каб прадпрымальнік Коля з блакітнымі вачыма*
*і блакітнай кашуляй*
*успомніў сваё дзяцінства і гаворку з бабуляй,*
*каб Алёна не думала, што Магілёўшчына —*
*балотная краіна,*
*а вакол адна руіна,*
*каб Света цешылася нейкімі*
*добрымі думкамі пра людзей,*
*а не толькі — **яны зайздросцяць,***
***яны хлусяць, падманваюць дзяцей.***

*Так, я ведаю, гэта немагчыма, каб усе пачулі музыку сфер*
*і каб касмічны хаос ператварыўся ў давер.*

*І вось таму гэта мара, а не такі верш.*

### Бліны

*яна рабіла бліны*

*калі ён не хацеў есці*
*калі ён не хацеў жыць*
*калі ён не вярнуўся*
*калі ён напіўся*
*калі ён пайшоў у армію*
*калі ён ажаніўся*
*калі ён прыехаў з унукам*
*калі ён разводзіўся*

*яна рабіла бліны*

*Столькі пытанняў можна было задаць*
*а яна толькі*
***Ясі, ясі!***
***З мёдам? з сырам? з варэннем? са згушчонкай?***
***са смятанай?***

*і зноў стаіць над патэльняй*
*памінкі*
*прайшоў год*

*няроўная тэкстура бліноў*
*кажа пра нядобрую любоў*
*якая затыкае рот*

### Паўтарэнне

*Колькі разоў засціляць ложак?*
*Колькі разоў сціраць шкарпэткі?*
*Колькі разоў падмятаць лесвіцу?*
*Колькі разоў чысціць абутак?*
*Колькі разоў мыць посуд?*
*Колькі разоў рыхтаваць сняданак?*
*Колькі разоў зачыняць дом?*
*Колькі разоў запальваць святло?*

*Дзеля чаго гэта?*
*Каб дасягнуць дасканаласці?*

*А можа мы проста выканаўцы дзеянняў?*
*І больш ніхто.*

*Засцілальнік ложка.*
*Сціральнік шкарпэтак.*
*Падмятальнік лесвіц.*
*Чысціцель абутку.*
*Мыйнік посуда.*
*Рыхтавальнік сняданака.*
*Зачыняльнік дома.*
*Запальнік святла.*

*Паміж шматразовымі паўторамі*
*незакончанае трыванне дзеяслова*
*стане закончаным трываннем сусвету.*

### Ліст

*Дарагая княгіня Магдалена Радзівіл!*

*Я пішу Вам на Той Бок Жыцця*
*і спадзяюся атрымаць адказ,*
*няхай гэта будзе сон ці размова,*
*тэлефонны званок, інтэрнэт-чат,*
*я не ведаю, прыдумайце што-небудзь...*

*Як Вашы справы? Як Той Бок Жыцця?*
*Вы там ужо без акцэнту размаўляеце*
*па-беларуску, так?*
*А можа, там усё роўна?*
*Ці то ўсе ўсіх разумеюць,*
*ці то ёсць нейкая эльфійская мова,*
*блакітная эсперанта напрыклад?*

*Ці чыталі Вы творы,*
*Якія, дзякуючы Вам, пабачылі*
*Гэты Бок Жыцця?*
*Што спадабалася больш за ўсё?*
*Што параіце пачытаць?*
*Як на Тым Боку справы з кнігамі*
*і ўвогуле з чытаннем?*
*Там працуюць*
*бібліятэкі, кнігарні, выдавецтвы?*

*Буду вельмі ўдзячна за адказ.*
*З павагай*
*Магдалена Лаеўская*
*Гэты Бок Жыцця, 14 сакавіка 2023 года*

### Інтэрв'ю з Саламеяй Рэгінай Пільштыновай

*— Ці вы існавалі сапраўды?*
*— Так.*
*— Чаму Вы пераехалі ў Турцыю?*
*— Турцыя дала мне незалежнасць, значэнне, становішча, а Рэчпаспалітая XVIII стагоддзя не змагла гэтага даць. У Турцыі я магла быць практыкуючым доктарам, свабоднай жанчынай толькі таму, што была іншаземкай і мела жаданую прафесію. Я знаходзіла працу ў асноўным у турэцкіх гарэмах, куды з маральных меркаванняў не дапускаліся лекары-мужчыны, у той час як жанчына магла лёгка агледаць іншых жанчын. Такім чынам збег абставінаў паспрыяў таму, што Ўсход стаў для мяне свежым паветрам, акном у свет, Усход даў магчымасць быць шчаслівейшай версіяй сябе.*
*— Як доктар і бізнэсвумэн спадарыня ўмела прымаць эфектыўныя рашэнні, а як жонка і маці — гублялася; Вас выкарыстоўвалі і падманвалі, куплялі салодкімі словамі, кідалі і зноў прасілі прабачэння. Чаму?*
*— А можа жулікі цягнуцца да моцных жанчын, або моцныя жанчыны павінны дзесьці, у нейкай сферы жыцця, праявіць слабасць для раўнавагі. Не ведаю.*
*— Ці ёсць, па-вашаму, на нашай зямлі нешта нязменнае, нейкая вечная апорка, што дапамагае жыць?*
*— Канешне. Святая Тройца. Бог Айцец, Бог Сын, Святы Дух.*
*— Які метад лячэння Вы лічыце найбольш эфектыўным?*
*— Усе хваробы ад праблем. А як іх пазбегнуць — аднаму Богу вядома...*
*— Ці хацелі б Вы, каб па Вашай кнізе знялі фільм?*
*— Чаму не? Я ўпэўнена, што беларусы маглі б гэта зрабіць выдатна, з усімі гэтымі шаўкамі, бліскаўкамі, усходнімі танцамі, як ім падабаецца...*
*— Дзякуй за размову.*

### Крама

*У нас ёсць*
*сподкі,*
*талеркі,*
*кубкі,*
*шклянкі,*
*відэльцы,*
*чайныя лыжкі,*
*кілішкі.*

*Пагадненні,*
*артыкулы,*
*дадаткі,*
*падраздзелы,*
*зноскі.*

*Спецыфікацыі,*
*акты,*
*рахункі-фактуры,*
*квітанцыі,*
*накладныя,*
*чэкі.*

*Крэмы для рук,*
*ног,*
*жывата,*
*вачэй,*
*шчок,*
*твару.*

*І толькі любові ў нас няма.*

### Канапа святой Ядвігі

*Калі клапоцішся аб сваёй беларускай мове,*
*Ідзі на канапу святай Ядвігі ў Магілёве.*
*Кубак гарбаты, кніга, прыемная размова —*
*і атмасфера працы гатова.*

*А ўсё астатняе зробіць святая Ядвіга.*
*Падкажа граматычны канчатак назоўніка,*
*дапаможа з вымаўленнем*
*ды з памяці ажыўленнем.*

***Не бойся і нічога не палохайся.***
*Ідзі!*

### Дабраслаўёная нерухомасць рэчаў

*Добра, што рэчы там, дзе я іх пакінула.*
*5 рублёў у вясновым паліто, якія праз год знайшла*
*ў кішэні.*
*Дзённік, які доўга чакаў у кутку небыцця,*
*пакуль не з'явіліся яго́ныя думкі.*
*Планы ўрокаў, якія нагадваюць, што я магу*
*працаваць з любоўю.*
*Візітоўка ў кнізе з актуальным нумарам тэлефона.*

*Блаславёныя рэчы, якія я знаходжу, не шукаючы.*
*Іх нерухомасць працуе лепш за магію.*
*Законы фізікі, якія не перашкаджаюць метафізіцы.*

# За плынню часу



Іна СНАРСКАЯ

## Дзед Іосіф

Зноў і зноў не дае мне спакою лёс дзеда Іосіфа. Што гэта? Генетычная памяць? Нібы яго сны бачу, здрыгваюся ў сне. Мулкія драўляныя нары, усмешачкі катаў, застуджаныя сіплыя галасы... Не маё, не маё... але ж абуджаецца памяць, крывавіць, баліць. Які быў мой дзед? Пра што марыў? Якія апошнія словы сказаў перад смерцю?..

Іосіфа Снарскага расстралялі ў 1937 годзе. Суда па-сутнасці й не было. Засуджаны «тройкай». Хто гэта быў? Людзі? Гаварылі на той жа мове. Гаварылі? Не, яны выплёўвалі словы, як харкавінне. Вінаватыя? Вінаватыя. Да смерці, да страты! Страцімам паляцеў мой дзед у нябёсы. Плакалі анёлы, ды іхнія слёзы падалі на зямлю каменнем. А крывавыя жорны перамолвалі косткі й долі. Падалі людзі на дол, туліліся да зямлі. Ці ўратуе? Але маўчала зямля, і толькі каменне крышылася пад нагамі катаў. Вось бы глянуць у тыя вочы? Чорныя? Блакітныя? Шэрыя? Але нельга глядзець, боператворышся на каменны слуп, акамянееш ад лютасці...

За што?! За што — тады не пыталі. «Контррэвалюцыйная дзейнасць. Агітаваў за буржуазную Польшчу». Але нейкая ж свалата данесла! Што прысвоіць хацелі? Якія статкі? Толькі хату збудавалі, пачалі жыць, як людзі. Дзеткі — Стасік і Валечка, тры і пяць гадкоў. Каханая жонка Марыя... Тады арыштоўвалі ўсіх каталікоў з падобнымі да польскіх прозвішчамі, па ўсёй Беларусі. Брата Клаўдзія таксама арыштавалі. Праз месяц расстралялі. Так і ляжаць браты ў адным рове, яме, прорве. Але дзе? Не ведаю. Цяпер нават не даехаць... не даляцець. Вайна...

Неяк патрапіў мне на вочы спіс рэпрэсаваных па Віцебскай вобласці. Снарскіх там некалькі чалавек, і кожнаму «прышылі» справу. 80% з таго спісу — людзі з падобнымі да польскіх прозвішчамі, імёнамі. Каталікі па веравызнанні. Большасць судзіла «тройка». Расстралялі! Ці сніліся потым ка́там жахлівыя сны, ці пёк сорам іхніх нашчадкаў?

*Камень. Рачулка. Поле.*
*Тут паміраў мой дзед.*
*Дзень спавядаўся долу*
*І крыжаной вадзе.*

*Завеі хавалі гукі.*
*Дзе кат той, які страляў?*
*Ці стаў ён пасля бязрукім,*
*Ці галаву схіляў?*

*Ці падаў у скрусе потым,*
*Сляпы і глухі кат,*
*Ці залівала потам*
*Люты яго пагляд?*

*Колькі ён жыў ці жэўрыў,*
*Гэты самотны кат,*
*Калі зачыніліся дзверы —*
*Як Каіну — ў райскі сад?*

***

Некалькі пакаленняў Снарскіх былі ляснічымі. Магчыма, таму лес увайшоў і ў маю кроў, прарос галінамі й карэннем, ігліцай і пахам моху, усімі тымі дрэвамі, птушкамі. Воляй!.. І да гэтага часу лес каля Вароніч Полацкага раёна называюць борам Снарскіх. Жыло на той зямлі некалькі пакаленняў маіх сваякоў, даглядалі лес... Свой ці панскі? Снарскія паходзілі са шляхты, але збяднелай. У расстрэльных дзедавых дакументах напісана «з мяшчан». Хаваліся? Маўчалі? Ніколі ўжо пра гэта не даведаюся. Нікога са старэйшых няма...

Смешны такі факт зараз раскажу, і сведчыць ён пра пароду, генетычную адметнасць: ва ўсіх Снарскіх аднолькавыя вушы, правае вуха трохі адтапыранае — у дзяцей, унукаў, праўнукаў, у братоў, пляменнікаў, у мяне. У майго сына і нават унука перадалася гэтая прыналежнасць да роду, хоць і разбавілася кроў Снарскіх у новых пакаленнях шматкроць.

— А татка твой каго ні пабачыць на дарозе, першы здароўкаецца, ледзь прыкметна кланяецца. І дзед твой так рабіў. Людзі кажуць, са шляхты Снарскія былі. А па мне, дык простыя людзі, ніколі сябе высока не неслі...

Гэта гаворыць старая жанчына, былая бабуліна суседка, яна пабачыла мяне ў Вароніčах і пазнала. Раней я штогод прыязджала, адведвала бацькаву й бабуліну магілы...

***

Мой дзед у лесе ведаў кожную ялінку, кожную хваінку. Яны з братам былі абходчыкамі. Тады і польская мяжа была недалёка. Магчыма, потым з іх «выбівалі» паказанні, што браты хадзілі на той «варожа-буржуазны» бок, перадавалі нейкія міфічныя сакрэты. Як лёгка было чалавека абвінаваціць у неіснуючых грахах! Так і жылі між молатам і накавальняй, між Сцылай ды Харыбдай...

Як гэта здарылася і калі, я не ведаю, але зламаў дзед нагу. Дрэнна тая нага зраслася, балела, ён кульгаў, таму не змог больш працаваць у лесе. Перайшоў на спакойную і менш рухавую працу: вартаўніком на ільнозавод... Часам мне сніцца сон, што я кульгаю. Чаму? Памяць дзеда Іосіфа стукаецца?..

Калі арыштавалі Іосіфа Снарскага, яму было ўсяго 36 гадоў. Яшчэ зусім малады чалавек, жыццё наперадзе. Меў каханую жонку, двух дзетак... Хату новую толькі што збудавалі, манеты пад вуглы падклалі на шчасце. Але шчасце выявілася кароткім...

Валечка, дачка Іосіфа і Марыі, перад самай вайной захварэла на дыфтэрыю й памерла. Тата выжыў, але быў хваравіты й пайшоў туды, адкуль не вяртаюцца, у 54 гады. А тады, у маленстве, асабліва ў вайну, ды і пасля, вельмі галадалі. Бабуля распавядала, як яны бліны з лісця рабілі, на мякіне замешвалі. А найлепшыя дзіцячыя прысмакі напачатку вясны — квецень з акацый, бэзу, салодкія кветачкі канюшыны...

А бабуля Марыя ўсё спадзявалася, што яе сужэнец вернецца, дзецям расказвала, што жыве ён недзе на засланні. Уяўляла нават яго іншую сям'ю. Не раўнавала, быў бы жывы...

— Гэта не страшна, няхай другая жонка нават, няхай... толькі б выжыў, толькі б вярнуўся хоць на адзін дзень на нас паглядзець...

Надзея знікла, калі прыйшоў дакумент, нібыта Іосіф Снарскі памёр ад запалення лёгкіх. Ужо шмат гадоў прайшло пасля страты, а нехта ўспомніў, што трэба хоць нейкую «ліпавую» даведку даць. Хто пісаў? Навошта? Было гэта яшчэ да рэабілітацыі. Але бабуля ўсё роўна чакала, спадзявалася, што гэта памылка... Не памыліліся, калі стралялі ў патылiцу... а можа, у грудзі. Вылецела з дзедавых грудзей птушка Страцім. Спявае, спявае... А я чую яе голас. Дзедаў голас...

***

А сёння патрапіла на вочы кніжачка Анатоля Вярцінскага «Жыцьмем». Сімвалічная назва, актуальная асабліва цяпер, калі ва Украіне, дзе я жыву, ідзе вайна — бязглуздая, сюррэалістычная, калі ніхто не ведае, што чакае заўтра, калі нічога нельга планаваць. І вучышся жыць толькі сённяшнім днём. Вучышся...

Сюррэалізм быў і ў 20-я гады, і ў 30-я мінулага стагоддзя. Няўжо гісторыя сапраўды рухаецца па коле, нейкім жахлівым пякельным коле, і каб ачысціцца, узнесціся над гэтым тлумам і люцццю, трэба спачатку памерці?..

У Вярцінскага я прачытала такое: «Як сведчаць гісторыкі, "распрацоўка" арыштаваных, выбіванне з іх "чистосердечных признаний" пад час сталінскіх рэпрэсій суправаджаліся рознымі садысцкімі метадамі "фізічнага ўздзеяння", гэта значыць катавання. Яны мелі свае назвы: "табурэт", "вятрак", "мазгі ў столь" і г. д. Адметнасцю некаторых з гэтых метадаў было тое, што вязням, і асабліва "нацдэмам", яшчэ плявалі ў твар»...

Праз якія ж пякельныя мукі прайшоў мой дзед? Страшна ўявіць, ад адной думкі плачу ў душы, плачу ўжо некалькі дзесяцігоддзяў. Ды што я магу зрабіць, акрамя памінальнай малітвы: царства нябеснае рабу Божаму Іосіфу, рабу Божаму Клаўдзію ды іхнім памерлым родным... А яшчэ слова. Словам жа я магу іх успомніць, паспрабаваць данесці хаця б нейкія кавалачкі жыцця дарагіх мне людзей. Успаміннае слова, горкае, як палын...

Адкуль у людзях такая нянавісць да сабе падобных, такі немагчымы садызм? Нічога падобнага ў прыродзе няма. Звер забівае звера таму, што хоча есці, забівае, каб выжыць, прадоўжыць свой род. А чаму забівае чалавек? Бог стварыў яго дасканалым, як і ўсё ў прыродзе. Мусіць, адбылася нейкая генетычная памылка, трансмутацыя душы. Ці мае душу кат? Можа, там толькі чорная дзірка, у якую засмоктваюцца зоркі і планеты? Магчыма, гэта нейкі муціраваны чалавек, біялагічны робат? Можа, на нейкім этапе душу падмянілі, і чалавек больш не чалавек...

Сёння, калі ў чарговы раз адключылі святло, я слухала фрагмент з аўдыёкнігі Уладзіміра Салавухіна «Чаша», у якой успамінаецца Тамбоўскае паўстанне сялянаў у 1921 годзе. Тухачэўскі з войскам «ціснулі» гэтае паўстанне, якое ўзнікла праз страшэнны голад і бяздзейнасць мясцовай улады. Як жорстка распраўляліся з сялянамі, іхнімі сем'ямі! Стралялі, вешалі, палілі хаты, тых, хто ўцёк у лес, труцілі газам... Сёння мы разгублена здзіўляемся, што такое тварылася і творыцца ва Украіне, на зямлі, якая ўжо даўно стала мне роднай, амаль што другой Радзімай.

Боль Украіны — ранай, якая не гоіцца... А садызм жа перадаецца па крыві, і раб нараджае раба. Лепшых людзей забілі, згнаілі ў лагерах, змарылі голадам, плюнулі ў твар у прамым і пераносным сэнсе. А гэта ж раўнацэнна смерці.

***

*Лёгкая радасць, а смутак цяжкі,*
*гэта час па-за часам, калі і анёлам цяжка:*
*яны нясуць на сваіх крылах*
*людскі боль, сум, трывожныя думкі,*
*і там, у Раі, ужо выраслі гаручыя горы,*
*як толькі іх трымае неба?*
*Анёлы плачуць, а слёзы*
*па́даюць на зямлю каменным дажджом.*
*На сухой глебе зярнятка не родзіць,*
*куды ні гляну — паўсюль пустэльня,*
*толькі пустэльня й каменне...*

***23. 01. 2023 г.***

***

У мяне няма ніводнага здымка майго дзеда. Успамінаю толькі яго партрэт — выбелены часам, размыты, — мабыць, фотамайстар павялічваў з маленькай карткі. Хадзілі раней майстры-фатографы па беларускіх вёсках і з маленькіх фотакартачак рабілі партрэты. Павялічвалі, нешта падмалёўвалі, і нават, калі замоўнік пажадае, з чорна-белых здымкаў рабілі каляровыя. Але выходзіла кепска, колер выглядаў ненатуральна. І дзед мой выглядаў ненатуральна, як нейкая здань. Партрэт вісеў у бабулінай хаце на сцяне да таго часу, пакуль і саму бабулю, і яе хату, і ўсе фотакарткі ў вялікіх паточаных шашалем рамах не закапалі ў зямлю. Так што майго дзеда закапалі двойчы: спачатку, калі расстралялі, а потым яго вобраз з партрэта...

Як выглядаў дзед Іосіф? Уяўляю яго падобным да майго бацькі: цёмнавалосым, кучаравым, з шэра-блакітнымі, як у большасці Снарскіх, вачыма. Цікава, як ён гаварыў, як рухаўся? Што яго хвалявала ў жыцці? Ніколі пра гэта не даведаюся. Ніколі...

Бабуля часта ўспамінала шчаслівы, кароткі гэтым шчасцем час сваёй маладосці, калі яны з дзедам на фаэтоне каталіся. Сваім? Панскім? Магчыма, гэта было вяселле. Бабуля смяялася, і яе густыя, пшанічнага колеру валасы, цалавалі вецер і мой малады дзед...

А потым, цераз некалькі гадоў, Іосіф стаяў над ровам, і кат страляў яму ў патыліцу...

Хачу напісаць фантастычнае апавяданне пра тое, як я перанеслася ў часе і спыніла ка́та. А што, калі дзед выжыў і бабуля гэта адчувала сэрцам? А ёй не верылі, нехта нават смяяўся... Як можна смяяцца з любові?..

***

А яшчэ вельмі смутна, але ўсё ж памятаю сваю прабабу Ганну, маці дзеда Іосіфа. Яна жыла ў суседняй хаце, ад бабулінай цераз агарод, і была вельмі старой, востры нос з гарбінкай... Яна мне нагадвала белую саву, можа таму, што была зусім сівая. Калі прабаба Ганна сеяла зерне, дзьмухала на далоні й прыгаворвала:

— Сіла да сілы, дабро да дабра, вазьмі маё, аддай сваё, прымі й вярні...

Гэтыя словы паўтарала і бабуля Марыя, магчыма, таму я і запомніла. Прабаба Ганна дажыла да 96 гадоў. Калі яе хавалі... гэтага я не памятаю, але тата расказваў, я спытала: «А што прарасце з нашай бабы Ганны?».

...А вырасце з зярнятка дрэва роду. І прадоўжыцца жыццё...

***

*Але застаецца яшчэ дарогі*
*Не толькі памяццю дарагія,*
*Малюся да неба, прашу я ў Бога:*
*Пашліце сустрэчы і словы жывыя.*

*Пашліце стажары і ластавак лёты,*
*Каханне і добрыя, мудрыя вершы.*
*Нічога на потым, нічога на потым,*
*Бо кожны мой дзень — як апошні і першы.*

***25. 01. 2023 г.***

## Зязюлька

— Ку-ку, ку-ку, ку-ку...

Зязюля кукавала, адмярала-мерыла гадзіны, а потым хавалася ў сваю хатку, маленькае лялечнае ваконца закрывалася шчыльнай дзверкай, і я чакала, калі ж гэтае дзіва паўторыцца. Што б мы з хлопцамі ні рабілі, я думала пра птушачку, уяўляла, як праз нейкую гадзіну яна зноў высуне з ваконца сваю хуткую галоўку, і тады, тады... нарэшце я яе добра разгледжу, і стане нарэшце зразумелым, якім чынам гук вылятае з яе чырвонай дзюбкі.

Заканчэнне на стар. 7 »

# За плынню часу

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

У нас быў гадзіннік з боем, а ў майго сябра Алега — з зязюляй. Мы не гаварылі тады «зязюля», «кукушка» было больш зразумелым словам, ад тога «ку-ку», якое мы ўсе добра чулі.

— Як ты думаеш, Алег, калі б кукушка была сапраўднай, яна хацела б жыць у гадзінніку, кукавала б?

— Не... ты такое пытаеш, нібы зусім маленькая, нібы ты мой Вадзім, ён жа на два гады малодшы за нас, гэта ён такое можа спытаць, а не ты! Гэта ж ясна: кукушка павінна жыць на волі, у лесе. А гэтая птушачка цацачная, ёй добра ў гадзінніку, такі яе лёс... Да таго ж... — Алег пачухаў патыліцу, — такая яе праца...

— Але ж яна птушка... няхай несапраўдная, цацачная... Усе птушкі хочуць жыць на волі. Мабыць, ноччу ёй сняцца сны пра тое, як яна лётае... Ты толькі падумай, Алег, як жа гэта страшна: жыве сабе птушка, адлічвае гадзіны... і нічога для яе не мяняецца, і сама яна не мяняецца. Нават калі пройдзе сто гадоў, нічога не зменіцца. Яна не сустрэне сябра, у яе не народзяцца птушаняты... толькі тое бясконцае «ку-ку». Уяві! Як гэта жахліва...

Гэта мы размаўлялі зімой. Прайшло пару месяцаў, настаў сакавік, 7 сакавіка, Дзень майго нараджэння. У святочнай мітусні я нават не адразу заўважыла, як прыйшлі мае сябры. Яны тапталіся на парозе, на валёнках раставаў снег і сцякаў пад ногі невялікай бруднаватай лужынай.

— О, як я рада! Заходзьце, хлопцы, распранайцеся хутчэй...

Вадзім трымаў у руках вялікую каробку з цукеркамі, а Алег загадкава нешта хаваў за пазухай. Раптам выпрастаў руку, і я пабачыла тое «нешта», загорнутае ў сіні шалік.

— Вось! Трымай! З Днём нараджэння!

Я разгарнула шалік і... о Божа, што гэта? Там ляжала пластмасавая зязюлька з гадзінніка. Замест часткі тулава і ножак з яе тырчала пачварная пружына, мабыць, Алег не змог раз'яднаць канструкцыю, а проста жывасілам вырваў птушачку з яе гадзіннікавай хаткі.

— Вось! Няхай пакуль пажыве ў цябе, а вясной... вясной мы разам аднясем яе ў лес...

Алег не паспеў дагаварыць, бо слёзы пырснулі з маіх вачэй, праз некалькі імгненняў я ўжо раўла ўголас. Пачуцці, якія мяне ахапілі, былі занадта складаныя для шасцігадовай дзяўчынкі. Калі б нават захацела, я не змагла б растлумачыць Алегу, чаму так горка плачу.

І сапраўды, чаму?..

*11. 01. 2023 г.*


Фота vokrugsveta.ru

## За плынню ў неба

Ляжаць з заплюшчанымі вачыма і ні пра што не думаць... Недзе праплываюць аблокі і стагоддзі, дрэвы прарастаюць карэннем, выпускаюць новыя галіны, шумяць высока ў небе, а я ў гэтым напаўсвядомым стане паміж сном і явай бачу ўсе гэтыя аблокі, карані і не бачу, бо цяпер я на выспачках сваіх успамінаў, сноў, мар... Не хочацца варушыцца, быццам я плыву плынню ракі на вечным трысняговым плыце і мне здаецца, што да неба можна дакрануцца вуснамі, калі ўсміхнуцца яму з даверам. А можа, гэта не рака, а неба, і я плыву па небе за плынню. Кроны дрэваў — карані, на якіх трымаецца светабудова. Сусвет дабра і зла, жорсткі і пяшчотны адначасова, бярэ мае рукі ў свае, і я адчуваю, што яшчэ не ўсё страчана, што старасць надыходзіць тады, калі перастаеш марыць і спадзявацца, што жыццё — вечнае. Мы прарастаем у сваіх дзецях, унуках, праўнуках, і, такім чынам, жыццё пераходзіць у жыццё... А мы такія маленькія ў гэтай бясконцасці лёсаў і спадзяванняў, нібы кроплі аднаго вялікага акіяна. Калі б кожны з нас усвядоміў сябе часткай адзінага Сусвету, ніколі б не рабіў балюча іншаму. А можа, менавіта дзякуючы болю адбываецца наша ачышчэнне, аднаўленне, адраджэнне? Мы становімся мацнейшымі цераз гэты боль, бачым далей і вастрэй. Збожжу, каб прарасці, спачатку трэба памерці, ператлець у сваім смутку, каб потым даць новае жыццё. Памерці, каб нарадзіцца...

Прачнуся чыстай, спакойнай, упэўненай у сабе, складу аскепкі разбітага быцця, як дзіцячую мазаіку ў адзіны Сусвет, у адну Любоў. Бачу дрэва жыцця, якое не зломіцца і выстаіць нават у шалёную буру, бо прарастае карэннем у Неба...

## Пра вершы

1

Адкуль прыходзяць вершы — я і сама не ведаю. Ёсць нейкі таемны механізм, які запускаецца дзякуючы пэўным абставінам. Штуршком можа быць нават надвор'е. Рана выпаў снег — лаві тэму для філасофскага верша. Вясна. Зацвілі абрыкосы, вішні, цюльпаны... І зноў снег — раптоўны, нечаканы... Раптам верш напісаўся... Змена надвор'я, кантраст, парадокс, прыродны катаклізм могуць запусціць той механізм, тыя струны душы, якія адклікнуцца і заспяваюць...

2

Аднойчы на вакне майго лецішча сярод зімы прачнуўся майскі хрушч. Спачатку я пачула дзіўны гук, нібы недзе шкрабецца мышка. Калі хрушч загудзеў, узняўся ў паветра, з прасоння ўдарыўшыся аб абажур таршэра, я нарэшце яго пабачыла. Нечакана ў мяне з'явіўся новы сябрук. Гэта было так неверагодна, што я расхвалявалася і, калі ехала на працу, напісала пра гэтую сустрэчу верш. Вось вам і звычайная казюрка... Хрушч жыў у хаце некалькі тыдняў, чакаў, калі я зноў да яго прыеду. Я нават спрабавала яго карміць, размаўляла... Адзін раз у мяне не выйшла прыехаць у вёску на выхадных. Нешта мяне затрымала, можа, нейкія здымкі, камандзіроўка... А калі ў наступную суботу я прыехала, то не адразу пабачыла свайго знаёмага хрушча. Шукала-шукала — і знайшла. Ён ляжаў у гаршчку са сталетнікам дагары лапкамі. Заснуў да вясны.

***

*Прачнуўся ў снежні майскі хрушч,*
*Хіба не дзіва?*
*Ён перайшоў часоў мяжу*
*Адзіны.*

*Як вырастае дзень і ноч*
*З жыцця і смерці,*
*Той хрушч з нябёснай печы злез —*
*Да сэрца.*

*З якога часу пераход,*
*З якой старонкі?*
*Званы-дарогі сотні год*
*Спяваюць звонка.*

*На падваконні ліст жывы*
*Вусамі круціць,*
*Замову ён прынёс травы*
*Ад люці.*

3

Верш можа прысніцца. Такое было не раз. Аднойчы мне прысніўся Рыгор Барадулін, нібыта мы збіралі яблыкі і слівы ў ягоным садзе ў Вушачах. Рыгор Іванавіч быў рэдактарам майго першага паэтычнага зборніка "Пачакай, мая птушка...". Гэта ён параіў назваць зборнік менавіта так, радком аднаго з маіх вершаў. Першую рэкамендацыю да ўступу ў Саюз беларускіх пісьменнікаў мне напісаў Рыгор Іванавіч, чым я вельмі ганаруся. Заўсёды падтрымліваў. Аднойчы мне давялося пабываць на яго Радзіме, у Вушачах, зайсці ў хату, пабачыць творчую майстэрню на паддашку...

А ў тым сне мне прысніўся ягоны вушацкі сад. Яскравы, сонечны дзень. Лёгка, радасна на душы, мы размаўлялі, смяяліся, дурэлі, як дзеці... Калі я прачнулася, то "пачула" першы радок: "Мне сніўся Барадулін малады...".

***

*Мне сніўся Барадулін малады —*
*Гарачы, летуценны, апантаны.*
*Садзіў ён вершаў сонечных сады,*
*Было яшчэ далёка да бяды,*
*Яшчэ далей да босага світання.*

*Мне сніўся Барадулін малады,*
*Без барады, вясёлы і шчаслівы,*
*Ён жартаваў на розныя лады,*
*Сівелі і марнелі халады,*
*А мы зрывалі яблыкі і слівы.*

*Напэўна, я губляла галаву —*
*У боскай поўні мёд піла з далоні.*
*Ляцелі яблыкі ў гаючую траву,*
*І верылася: толькі тут жыву,*
*І першым, безумоўна, было Слова.*

4

Аднойчы мне прысніўся верш пра майго дзеда Івана, сястронскага каваля. На вайне яго моцна параніла, правую нагу не ўдалося ўратаваць, і дзядуля прыйшоў дадому на мыліцах. Я памятаю той жахлівы пратэз, які стаяў у кутку нашай сястронскай хаты, і кожную раніцу дзядуля ўкладаў куксу ў тую штучную нагу... Ёсць у мяне апавяданне пра дзеда Івана, вайну, якая глядзела мне ў вочы пачварнымі пратэзамі з кутка хаты... У сне дзед Іван быў маладым і нават зусім не кульгаў. Я нават не адразу яго пазнала... А калі пазнала, парадавалася, бо і ён пазнаў мяне...

***

*Мой дзед — каваль,*
*Ён сёння мне прысніўся,*
*А я ў яго сядзела на каленях.*
*І недзе вецер люта ў шыбку біўся,*
*І недзе горад прарастаў каменны.*

*А я сядзела ў дзеда на каленях.*
*Было так лёгка і зусім не страшна.*
*Утульна печ-ахоўніца бялела,*
*І на стале ляжалі яйкі-крашанкі.*

*І цікаў на сцяне гадзіннік,*
*Адлічваў нам стагоддзі і хвіліны...*
*Мой дзед — каваль. Ён малады*
*й прыветны.*
*Вартуе сон дзіцячы сіні й светлы.*

5

Нехта з вядомых пісьменнікаў сказаў, што вершы не пішуцца, а здараюцца. Гэта праўда. Для мяне верш пачынаецца з нейкага ўнутранага хвалявання, рытму і непраяўленых гукаў. Нечакана з'яўляецца першы радок. Амаль ніколі не ведаю, чым верш скончыцца, але першы радок заўжды чую. Гэта накшталт таго, нібы ў галаве працуе нейкая таемная радыёстанцыя. Спачатку ўсё шуміць, трашчыць, і цяжка зразумець словы. Потым, калі адбываецца настройка на пэўную хвалю, словы становяцца больш разборлівымі. І вось ужо не толькі словы, а й словаспалучэнні й нават радкі... Калі пішацца — адчуваю ўзнёсласць і радасны неспакой, мне нават трохі жахліва, што такое дзіва адбываецца са мной. Адчуванне, нібы дакранаюся да таямніцы. Не мы, а цераз нас...

## Час

*«Паэт — пасярэднік спаміж часовым і вечным светам».*
***Рыгор Барадулін***

*«Час нагадвае снег, які бязгучна падае ў чорны пакой...».*
***Рэй Брэдберы***

Ёсць некалькі відаў часу. Першы — лінейны, па ім, як па тунэлі, чалавек рухаецца ад калыскі да таго пераходу, які прынята называць смерцю. Магчыма, гэта проста змена дэкарацый, адчуванняў, пачуццяў. І калі ўсё існае — плынь энергіі з пэўным рытмам, то кожная падзея ма́е свой люстраны адбітак, такога сабе антыпода. Уздых — выдых, дзень — ноч, уваход — выхад, нараджэнне — адыход...

Другі від часу існуе, калі мы спім. Гэта ён рухае нашу падсвядомасць, калі свядомасць адпачывае. Тут яго царства. І калі, згодна фізічным законам, праходзіць, напрыклад, усяго гадзіна, у сне, бывае, мы пражываем дзесяцігоддзі або пераскокваем з часу ў час. Там мы можам сустрэцца са сваімі памерлымі роднымі, пабачыць сябе ў дзяцінстве або маладосці, і гэта не здзіўляе, не выглядае нечым казачным ці фантастычным.

Трэці від часу — час творчасці. Ён нібы час над часам, рака над ракою, неба над небам... Колькі разоў я заўважала: пачынаю нешта пісаць, захапляюся, і вось ужо нібы даю нырца ў тую рэчку, жыву ў тым часе, адчуваю, бачу падзеі, тых людзей, пра каго пішу. І тады ўжо не істотна, дзе пісаць, у якіх умовах. Ці халодна, ці спякотна, ці хочацца есці, — ты пра гэта не думаеш. Галоўнае, дапісаць да канца, выкласці на паперы або на маніторы кампутара свае думкі, вобразы, тое задуманае, чым хочацца падзяліцца. Час творчасці нелінейны і рухаецца з рознай хуткасцю.

Бязгучна па́дае час у чорны пакой нашай свядомасці... Паэт запальвае свечку ад Святла, якое знаходзіцца над усім гэтым часам, па-за часам. Толькі б ісці, толькі б свяціць...

# Космас Радзімы



Рычард БЯЛЯЧЫЦ

***

*Словам, радком паўтаруся.*
*Хтосьці мяне папракне.*
*Трэба было,*
*Нават мусіў*
*Небу маліцца, вясне.*

*Па-над крылом Беларусі,*
*За даляглядам мяжы*
*Колькі разоў паўтаруся, —*
*Столькі разоў*
*І пражыў.*

*Не сукаваты, не гладкі*
*І не вяльможа, не раб.*
*Каб паўтарыўся спачатку,*
*Хіба ты супраць была б?*

### Ля вас

*А вы цяпер па-за мяжою*
*Вачэй і голасу, і слыху.*
*І толькі памяць год ужо*
*Аберагае нас паціху.*

*Хоць краявід вазьмі і зруш*
*Маўклівы, стоены ці звонкі.*
*Замест віна, чырвоных руж —*
*Мае самотныя старонкі.*

*Кладзёмся спаць сабе ямчэй,*
*Глядзяць спагадлівыя зоркі.*
*Між намі — горад*
*І яшчэ*
*Радзімы космас мой далёкі.*

*Ён дапаможа сэрца стук*
*Пачуць, нібыта ноты, потым…*
*Я каля вас даўно,*
*Я тут,*
*Дзе ў балюстрадах — адзінота.*

*Гады чужыя і свае*
*Пад лістапад ляцяць, знікаюць.*
*І ўпасці небу не дае*
*Святая памяць,*
*Наша памяць.*

***

*Напэўна, хопіць прысвячэнняў,*
*Прызнанняў гэтулькі.*
*Дарма:*
*Трава, лісты і слова чэзнуць,*
*Калі надарыцца зіма.*

*Пачуцці светлыя аціхнуць.*
*І хтосьці будзе нават рад,*
*Што пад павекі, нібы ў ціну,*
*Асядзе стомлены пагляд.*

*Усё ж на свеце застанецца*
*Чыясьці постаць не чужой.*
*І дыяграму выдасць сэрца,*
*Што не расшыфраваць ужо.*

### Раскажы

*Я не стану сапраўдным ці лепшым.*
*І на самай апошняй мяжы*
*Раскажы, раскажы мае вершы,*
*Як умееш, усім раскажы.*

*Не пакрыўджуся ні на хвіліну,*
*Калі скажаш не тое, не так.*
*Я табе свае слова пакіну*
*І душу пад зямны задыяк.*

*Будзеш самай прывабнаю госцяй,*
*Без цябе не адбудзецца дня.*
*Прыгажуні табе хай зайздросцяць*
*І ўпадуць донжуаны з каня.*

*А надарыцца годны, смялейшы,*
*Не анёлак крылаты, не сон,*
*Раскажы і ягоныя вершы…*
*Быў бы верны і правільны ён.*



Фота erobus.com

### Альбом

*Вырас з калыханкі.*
*І расту.*
*Мой альбом — нібы чужыя вокны:*
*Тут не я*
*І тут не я, а тут*
*Хтосьці на мяне крыху падобны.*

*Юны, незвычайна малады,*
*Толькі погляд пацягнула дымкай.*
*Каб я быў на фотаздымку тым,*
*Дзе тады і ты на фотаздымку?*

*Я чамусьці нечакана рад*
*І камусьці ўсмешку нават змучыў.*
*Жыў стагоддзе цэлае назад*
*Той фатограф, пэўна што, дрымучы.*

*Колькі часу далей ні міне,*
*Застаецца вуліца жывая.*
*Бацька маладзейшы за мяне,*
*Мама пра Купалінку спявае.*

*Смутак, шкадаванне тут*
*І боль.*
*Вокладку прыкрыю,*
*Нібы дзверы.*
*Гэтаму альбому больш і больш*
*Я з гадамі веру*
*І не веру.*

### Сябры мае

*Таленавіты, годны, горды.*
*А цішыні ні тут, ні там.*
*Сябры мае — адной кагорты,*
*Таму няпроста, пэўна, вам.*

*Хоць у хамут удар, у дышаль,*
*Закон не ведае мяжы.*
*Мы нарадзіліся,*
*А выйшла,*
*Што час не наш,*
*Што ён чужы.*

*Калі жывём, навошта,*
*Дзе мы,*
*Пытаеш ты,*
*Цікава мне.*
*Тут непатрэбныя паэмы,*
*Тут зноўку лозунгі ў цане.*

*Пытанне прашчура вадзіла*
*Не аднаго ў смяротны бой.*
*Дзе пачынаецца Радзіма*
*І хто на свеце мы з табой?*

*Зноў небасхіл рукой зацёрты*
*Чужой*
*Ва ўгоду чужакам.*
*Мае сябры — адной кагорты,*
*Таму няпроста мне*
*І вам.*

### Васіль

*Перазахаванне — водгук, гром*
*Пры гары высокай Гедыміна.*
*Ты назваўся проста Васілём.*
*Памяць жа пра Ганну пласт падыме,*
*Што з Чарнушкаў.*
*Колькі ні міне*
*Вёснаў.*
*Птушкай узлятаюць бровы.*
*І на развітанне шчыра мне*
*Слова добрае пра кніжку мовіў.*
*Васілём назваўся.*
*Слова дзе ж,*
*Фрак і гальштук дужа модны?*
*Ты з “мужыцкай праўдаю” ідзеш*
*Па старой друкарскае Гародні.*

***

*Запеніць неба непагода*
*Самотных воблакаў пярынай.*
*Няўжо ніколькі вам не шкода*
*Сустрэч на мосціку бабрыным?*

*Ля поручняў, ля свежай хвалі,*
*Дзе пра нязбыўнае я марыў,*
*Вы сімпатычна дзень канчалі,*
*Ішлі далей, вышэй за хмары.*

*Шукаў я рыфмы па кустоўі,*
*А вы з сабою іх панеслі.*
*Радкі мае…*
*Спляцаць у што іх —*
*У прыбярэжны сум*
*Ці ў песні?*

### На заўтра

*Не мой сягоння дзень асенні,*
*Бо не прыходзіць ні радка.*
*Хоць станавіся на калені,*
*Хоць на сузор'і наракай.*

*У вуліц клопаты чужыя,*
*Ідуць і едуць грамадой.*
*Як ні струніў да неба шыю —*
*Знаёмай песні ні адной.*

*Праходзяць дні, гады мінаюць,*
*Гняздо на ліпе зорка ўе.*
*І просіць сцішаная памяць*
*Жывое слова пра цябе.*

*Тады маркоціцца не варта,*
*Нібы асенція лісты.*
*Спакую гэты дзень на заўтра,*
*Дзе будзеш ты.*
*Там будзеш ты.*

*Не пашкадуй усмешкі толькі,*
*Якую з раніц Бог сatkаў,*
*Для мая,*
*Зіхатлівай ёлкі*
*І для самотнага радка.*

### Яны

*На векапомным рубяжы*
*Па Нёмне, Пціцы, па Дзвіне*
*Хачу даведацца,*
*Хто жыў*
*Раней у краі,*
*Да мяне.*

*Без іх ісці было б куды.*
*Без іх не ведалі б мяне.*
*Зваліся б словы, гарады*
*Па гэтай мудрай старане.*

*Хачу паветрам дыхаць іх,*
*Пакуль жыву,*
*Пакуль іду.*
*Мае дарогі, вочы, слых,*
*Не прапусціце светлых душ.*

*Рагнеда, Вітаўт, Усяслаў,*
*Скарына,*
*Сын*
*І сынаў сын.*
*Імёнаў свежых лёс прыслаў,*
*І я сягоння не адзін.*

*Ад стромых сценаў і ад кніг,*
*І ад любові,*
*Цераз сум,*
*Які жаданы шлях да іх,*
*Да сэрцаў, крокаў,*
*Спелых дум.*

*Усіх збіраю да стала.*
*Са свечкі вечар слёз прынёс*
*І грому яснага паслаў,*
*Бо едзе ў брычцы сам Хрыстос.*

*Каб быць са мною і з табой,*
*Іх зорка вечная плыве.*
*Была Радзіма ў іх*
*І боль*
*І за сябе,*
*І за яе.*

### Аж гэта ты…

***Паліне Цыбульскай***

*Я азіраўся па баках,*
*Ішоў на промень залаты.*
*Хацеў пабачыць жаўрука,*
*Аж гэта ты,*
*Аж гэта ты.*

*Там пахне хмель, звініць ручай,*
*А я, каб бачыць, вочы тру.*
*Рука кранулася пляча,*
*Бы запаветных самых струн.*

*З нябёсаў стромых адпусці*
*Пры перуновае стральбе.*
*Дай супакоіцца ў жыцці*
*Пры песні гэтай,*
*Пры табе.*

*На дно, на неба з галавой*
*Я паляцець заўсёды рад.*
*Не паспяваю за табой*
*Ні ў дзень наступны,*
*Ні назад.*

*Крадком ступаю борам я*
*Пасля марозу і слаты.*
*Хацеў паслухаць салаў'я,*
*Аж гэта ты,*
*Аж гэта ты…*

### На свята

*Злізалі час туманы шызыя,*
*І на хвіліну змоўкла зала ўся.*
*Там ад палка і ад дывізіі*
*Па чалавеку заставалася.*

*Нясу рукамі сонца*
*Голымі*
*Дагэтуль*
*Цераз поле міннае.*
*Прыходжу*
*З імі*
*Каля полымя*
*Адным надыхацца*
*Ўспамінам.*

***

*Патух над возерам касцёр,*
*Навіс на вочы хмары брылік.*
*Пагаварыўшы пра жыццё,*
*Мы пра сябе пагаварылі.*
*І не заўважылі, калі*
*Плужок наш браў*
*Плытчэй, то глыбей.*
*То мы героямі былі,*
*То падступалася пагібель.*
*Надходзіў рана маладзік,*
*Нібыта бацька моцна строгі.*
*Людзям хацелі дагадзіць*
*Ва ўсім,*
*А заадно — і Богу.*
*Збіралі з поля камяні,*
*Антонаўкаю рукі пахлі.*
*Якую шырму ні крані —*
*Паўсюль вясёлыя спектаклі.*
*Прагаварылі да святла,*
*Перажылі наноў нібыта.*
*З-пад зор Зямля на ўзлёт ішла,*
*З-пад снегу выплывала жыта.*

***16 верасня Рычард Станіслававіч Бялячыц адсвяткаваў сваё 70-годдзе. Жадаем нашаму аўтару натхнёнасці і новых святаў!***

# Два аповеды з мінулага



Іван ТРЫСЦЕНЬ

## Аброць

Зіма на вёсцы цягнецца доўга. Ужо і клопату менш, чым летам, і адпачыць крыху можна ад цяжкой працы ў полі, а ўлетку ўсё ж вясялей. Старыя сядзяць па хатах, грэюцца каля печы і выходзяць на вуліцу толькі дагледзець скаціну. А вось маладыя зусім не хочуць сядзець дома. Ці цёпла на вуліцы, ці мароз трашчыць, а ім усё роўна няўтульна са старымі бацькамі. Зімовыя вечары доўгія і сумныя, калі сядзіш у хаце. І дзяўчаты бягуць на вячоркі. Бяруць кудзелю ці воўну ды спяшаюцца да той сяброўкі, дзе бацькі не супраць вячорак.

Шкло ў лямпе праціраюць два разы: спачатку анучкай, а потым і паперай, каб у хаце было святлей. Малавата святла дае лямпа, але сяброўкам гэта нішто ў параўнанні з радасцю сустрэчы. Тут можна пачуць усе вясковыя навіны ды і пра свае расказаць. Верацёны круцяцца, пальчыкі дзявочыя хуценька бегаюць, скручваюць лён у тоненькую, моцную нітачку. Дзяўчаты стараюцца, працуюць хутка і акуратна, як бы спаборнічаюць паміж сабой. За вечар руча́йку, а то і дзве напрадуць. Ёсць чым пахваліцца ды і маці парадаваць. А хлопцы ўжо разнюхалі, дзе сёння вячоркі, і таўкуцца каля хаты. Нарэшце адважваюцца і цэлай гурмою, з шумам і грукатам, заходзяць у хату. Вітаюцца з гаспадаром асцярожна:

— Добры вечар, добры вечар…

— Хутчэй дзверы зачыняйце, а то холаду напусціце! — крычаць дзяўчаты, падганяюць нязграбных.

Хлопцы даюць гаспадару закурыць, а калі ёсць выпіць, дык і чарку нальюць, каб улагодзіць. Потым ужо не саромеюцца, кураць і гамоняць, як у сябе дома, падсоўваюцца бліжэй да дзяўчат. Шчыпаюць самых вясёлых і даступных, задаволена рагочуць, а тыя пішчаць ды штурхаюцца, хоць і любяць, калі іх абдымаюць.

Адзін такі кавалер перастараўся, жартуючы. Ганарыста закурыў самакрутку, а запалку сунуў у кудзелю. А лён гарыць — як порах. Пража ўмомант успыхнула. Усе перапалохаліся, ста́ла не да жартаў: ледзь пажару не нарабілі. Дзяўчаты пішчаць-крычаць на ўсю хату, але ніякай рады не даюць, толькі замінаюць. Хлопцы топчуць кудзелю нагамі, залiваюць вадою — насілу затушылі. Дзед-гаспадар зазлаваў і выгнаў з хаты ўсіх, вінаватых і пацярпелых. А хлопец ужо і сам быў не рады, што пажартаваў так па-дурному. Дзяўчына плача, спалохалася, калі ўбачыла агонь так блізка перад сабою. Ды і кудзеля згарэла, рэшткі адразу ў снег выкінулі.

На другі дзень хлопцы пайшлі да дзеда мірыцца. Вінаваты прынёс самагонкі, каўбасы, і сябры падкінулі сваіх пачастункаў. Пасядзелі з дзедам, выпілі, папрасілі прабачэння. Дакляравалі такога больш не рабіць, сядзець ціха, як мышы.

— Можам горшае штосьці зрабіць, але такога ніколі… Ні-ні, — паабяцаў хлопец.

— Як горшае? Яшчэ горш?! — насцярожыўся дзед.

— Ды не… Ён жартуе, — зарагаталі хлопцы, — выпіў ды баруздзіць абы-што. Колькі яму трэба, таму пеўню…

— Дзіва што певень, вунь як да дзевак ліпне, — прабурчаў дзед.

— Ну дык, дзядзька, і вы ж былі маладым. Таксама да дзевак ліплі, ці мо яны да вас? — падлізваліся хлопцы. — Дык можна ўвечары прыходзіць?

— Прыходзьце, — адпусціўся дзед, — ды толькі глядзіце…

— Ну, што вы… Вы ж нас ведаеце!

— Ведаю, ведаю… — бурчыць незадаволена стары. — Што з вамі зробіш? Толькі ж… Калі такое паўторыцца, дык і па шапцы дам… Не глядзіце, што стары.

— О-о-о, мы ведаем… Ведаем…

Хлопцы павесялелі. Як добра, што ёсць куды пайсці зімовым вечарам! На гэтым і разышліся. А як сцямнела, зноў поўная хата гасцей у дзеда. Хлопцы накурылі, аж цяжка дыхаць.

— Адчыніце хоць фортку, няхай дым выйдзе, а то ўчадзець можна.

Гэлька жвава падскочыла да акна, адчыніла фортку і прысела непадалёк. Пачала ўспамінаць, што з ёй учора здарылася, як сустрэлася з падлескім хлопцам. Усе яго добра ведалі, бо ён даволі часта прыходзіў на гулянкі і нават на вячоркі. Размаўляў ён неяк незвычайна: картавіў і словы пнуўся вымаўляць па-расейску. Выходзіла так, што без смеху нельга было слухаць. За вочы яго звалі па мянушцы — Аброць. Ён ведаў гэта, але выгляду не падаваў.

— Ой, дзяўчатачкі мае міленькія, вам і не расказаць, як жа ўчора мяне Аброць спалохаў!

Трэба ж такому здарыцца, што гэты самы хлапец таксама прысунуўся на вячоркі. Толькі што адмахаў пяць кіламетраў і прыпыніўся ля вакна. Захацелася яму цішком зазірнуць у хату: цікава ўсё ж глянуць збоку на іншых. Прыпёрся ў такі час з Падлесся, і снег яму не перашкода. Пачуў, што казала Гэлька, не вытрываў ды як гаркне ў фортку:

— Кагда я тебя спугарь?

Гэля ад нечаканасці падскочыла, упусціла верацяно і аж пабялела… Не паспела расказаць, як яе першы раз спалохалі, дык на́ табе: той самы Аброць зноў напалохаў!

Рагаталі ўсе, акрамя збянтэжанай Гэлькі і Аброця. Калі трохі прыціхлі, дзяўчына, засаромеўшыся, сказала:

— А хай ты згары, Валодзік… Ты сёння мяне спалохаў яшчэ больш, чым учора.

Дзяўчаты зноў засмяяліся. Яны прасілі Гэльку расказаць, як жа яе ўчора спалохалі. Але не ўпрасілі. Не захацела Гэлька больш нічога расказваць…

## Пісьмо

Парыжэлы лісток з вучнёўскага сшытка ў клетачку, крыху пакамечаны, з загнутымі вугламі… Колькі ж гадоў прайшло, як яго пісалі?

Спісаны амаль увесь. Восем з паловай радкоў дробным, акуратным почыркам, а ўсё астатняе — размашыста, нязграбна і бязграматна. Тэма адна — каханне, хоць пісалі яўна два чалавекі…

…Прамежкі паміж п'янкамі здараліся рэдка. Пасля працы ён звычайна ішоў у магазін па віно. На дзявочыя паверхі хлопец заходзіў рэдка. Яго тут не вельмі чакалі, бо хто любіць п'яніц? Ён разумеў гэта, але не было сілы волі, каб змяніць сваё жыццё.

Аднойчы Іван зайшоў да знаёмых дзяўчат. Ён не памятаў, як іх завуць, бо знаёміўся п'яны. І імёны разам з хмелем вылеталі на наступны дзень. У пакоі было даволі шумна. За сталом ужо сядзеў Капейка з сябрам. Іван заўважыў: нешта тут не так, гавораць рэзка, быццам спрачаюцца.

— О-о-о… Капейка ўжо тут як тут, прыпёрся. Бегаеш за дзяўчатамі?

— А як жа… Трэба старацца. Гэта цябе дзеўкі любяць, а мне вось трэба бегаць.



Фота gudogay.by

— Ат… Гэтак яны і мяне любяць…

— Што, не верыш? На вось, пачытай. Я хацеў табе занесці… Аня напісала. На вось, чытай, калі сам прыйшоў… На…

— Не трэба! Што ты робіш? Я ж цябе прасіла! — закрычала смуглявая насаценькая дзяўчына. Яна з першай хвіліны не зводзіла з Івана вачэй. Капейка сунуў яму ў рукі лісток паперы. Аня хацела перахапіць, але Капейка і яго сябар перагарадзілі дарогу. Яна рвалася да пісьма, аднак адпіхнуць двух хлопцаў не змагла.

— Чытай хутчэй, а то парве, — крычаў Капейка. — Бачыш, як праўды не любіць… Чытай.

— Якой праўды? Там майго пісьма некалькі радкоў, а астатняе вы дапісалі. Я ж прасіла вас, а вы што робіце? Хіба ж так можна? Прачыталі чужое, дык яшчэ…

— Можна… Можна!.. — рагаталі хлопцы. — Няхай і Ванюха пачытае.

А ён ужо чытаў.

« — Здравствуй, Ваня. Я долго не решалась тебе написать, но у меня нет больше терпения. Это должно было когда-нибудь случиться. Нет никаких странностей, что я пишу тебе письмо. Ведь любовь — это такое чувство, оно не зависит от нас… Во времена Сократа чувство любви было превыше всего. Я тебя люблю, сокол ты мой ненаглядный. Пожалуйста, не суди обо мне плохо за моё письмо! Но это письмо от всего сердца. Сердце словно искра, которую погасить нельзя…»

Іван, пахмяліўшыся, павесялеў, хацеў пагаварыць з дзяўчатамі. А тут такое пісьмо! Капейка нахабна ўсміхаецца, Аня стаіць, апусціўшы вочы. Значыць, гэта яна пісала! Злосць апанавала яго, затлуміла думкі.

— Ты што, думаеш, калі я выпіў, дык з мяне можна так здзекавацца? Навошта ты пісала гэтае пісьмо? Каб пасмяяцца? Ты, дурніца, думаеш, што так можна з чалавекам? Я не горшы за вас, а вы тут смешкі строіце…

— Яна ж цябе кахае і піша «сокол ты мой»…

— А ты, Капейка, такі ж нягоднік, як і яна. Удваіх напісалі, каб пасмяяцца. Чаму яна дала табе пісьмо? Пайшлі вы!..

Аня хацела нешта сказаць, ды хто яе слухаў?! Ён зразумеў толькі адно: з яго насміхаюцца. Думка пра тое, што яго можа кахаць такая дзяўчына, не прыходзіла ў затуманеную гарэлкай галаву. Выскачыў з пакоя, ляснуў дзвярыма і пабег па калідоры. Ад злосці і крыўды на Аню яго аж калаціла.

Дома нікога не было. Ён нарэшце ачомаўся і ўбачыў, што трымае пісьмо ў руках. Кінуў лісток на стол і пайшоў у магазін. Піў віно за вуглом абы з кім…

На другі дзень успомніў свае прыгоды, Аню, Капейку… Спачатку падумаў, што яны каханкі і рашылі з яго пасмяяцца. Яшчэ раз прачытаў. Толькі цяпер заўважыў, што напісана яно рознымі почыркамі. Настолькі рознымі, што толькі п'яны ці дурны не мог гэтага заўважыць. Спачатку напісана маленькімі літарамі, роўна і акуратна, а потым як курыца лапай. А можа, Аня і не вінавата?..

Аднойчы Іван ішоў з магазіна і ўбачыў прывабную дзяўчыну. Яна спяшала ў інтэрнат, а каля прыступак яе спыніў нейкі хлопец. Дык гэта ж Аня! Яна здалася неверагодна прыгожай. Моцная, загарэлая, у кароткай спадніцы, вабіла, прыцягвала мужчынскія позіркі. Так захацелася абняць яе ці хоць дакрануцца… Хоць разочак — адкінуць сумачку і пагладзіць. А ён жа мог трымаць яе ў абдымках! Яна была так блізка, а цяпер такая далёкая…

Ён зноў перачытаў лісток і зразумеў, што нядобра абышоўся з Аняй. Яна магла і на самай справе пакахаць яго, ён жа прыгожы хлопец… Ну, прынамсі, прыгажэйшы за Капейку. Усміхнуўся нявесела і зноў задумаўся… «Яна магла напісаць пісьмо, бо не ведала, як прызнацца, а ад такога, як ён, не дачакаешся… Села пісаць, а тут Капейка зайшоў, схапіў ліст і дапісаў. Почыркі два — адзін прыгожы, каліграфічны, а другі нязграбны, каравы. Забраць яна не змагла, а тут і сам каханы заваліўся пад хмяльком… Каб быў цвярозы, дык разабраўся б. А калі ты, Ванюха, быў цвярозы?.. Ну, Капейка, ну, нягоднік! А Анюта такая барышня! Ну і што ж, што насаценькая? Затое якая фігура!»

Праз два тыдні Іван даведаўся, што Аня звольнілася і пераехала ў другі горад.

…Маленькі лісток з вучнёўскага сшытка пажаўцеў, але словы на ім відаць добра. Дваццаць пяць гадоў прайшло, як дзяўчына хацела адкрыць каханаму сваё сэрца… Думкі яе былі светлыя, чыстыя, як слёзы, якія яна потым праліла. Нейкі там Капейка ўлез са сваімі крамзолямі, а чалавек, якога яна пакахала, нічога не зразумеў, а пакрыўдзіў, аблаяў… І за што? За яе каханне? Такое безабароннае пачуццё, і яго так лёгка зламаць! Толькі пачало разгарацца, як адразу затушылі, не доўга думаючы.

Лісток усё яшчэ ляжыць у агульным сшытку разам з вершамі пра каханне. Гэтае пісьмо адзінае, што атрымаў Іван ад дзяўчыны. За ўсё жыццё адзінае любоўнае пісьмо! А ў ім восем з паловай радкоў сапраўдныя, астатняе падробка. Не змог разабрацца, хоць было так проста! І, вядома ж, Анька не вінавата. Ды і Капейка не вінаваты. Толькі пажартаваў хлопец няўдала. А вінаваты ён сам, і асабліва перад Аняй. Мабыць, таму і не было яму больш пісьмаў. Прабач, каханне, прабач, калі ласка, Анюта…

# Сядзіба ў Міжрэччы



Вітольд ЕРМАЛЁНАК

Да Другой сусветнай вайны на Мёршчыне было шмат арыгінальных шляхецкіх сядзібаў, але большасць з іх пасля знішчылі. Такіх лёс напаткаў і сядзібу Мірскіх-Аскеркаў у Міжрэччы, хоць у даваеннай Польшчы яна лічылася помнікам архітэктуры дзяржаўнага значэння і ўсялякія перабудовы яе гаспадарамі былі забаронены.

Паселішча Міжрэчча ў дакументах упершыню ўзгадваецца яшчэ ў XV ст. Праўда, называлася яно тады Дуброўка, належала славутаму роду Сапегаў. Менавіта ад іх у XVI ст. уладанні набыў Багдан Валасоўскі. З таго часу Дуброўка і пачала называцца Міжрэччам. Другі набыты фальварак гаспадар назваў у свой гонар Багданавым. Яго ўладанні сталі спадчынай сыну Ігнату, жанатаму з Брыгідай Мірскай. Паколькі ў іх не было дзяцей, то маёнткі перайшлі да сястры Ігната Валасоўскага Канстанцыі, якая выйшла замуж за Томаша Мірскага. Таксама спадчына перадалася другой сястры Казіміры, жонцы Аляксандра Лапацінскага, а Чэмяры і Міжрэчча дасталіся Мірскім.

У 1852 годзе Міжрэчча атрымаў у спадчыну Віктар Мірскі. Пасля яго смерці ў 1892-м тут гаспадарылі пяць дачок. Адна з іх Ядвіга, выйшаўшы замуж за Вацлава Аскерку, сплаціла сваім сёстрам кошт маёнтка і стала паўнаўладнай уласніцай Міжрэчча, — дарэчы, апошняй. Муж яе памёр у 1905 годзе, а яна — у 1940-м. Яе сын Альгерд Аскерка з'яўляўся сябрам Браслаўскага павятовага камітэта трох выбараў, быў добрым гаспадаром, асабліва любіў гадаваць коней. Па ўспамінах браслаўскага старасты Зэліслава Янушкевіча, ён заўсёды клапаціўся пра развіццё конегадоўлі ў павеце.

Старадаўняя сядзіба ў Міжрэччы пабудавана са старога дубу. Месцілася яна на маляўнічым схіле, вакол якога бліскучай стужкай бруілася рака Вята. Будынак узводзіўся і дапрацоўваўся на працягу амаль двух з паловай стагоддзяў. Першы яго паверх быў закончаны ў канцы XVI ст., другі і іншыя пабудовы завершаны ў канцы XIX ст. Ніжні паверх мураваны і атынкаваны. Перад уваходам, які з боку ракі, на значнай адлегласці адна ад адной стаялі дзве вычасаныя з каменю калоны. Напэўна, раней на іх трымаўся дах. А з дабудовай другога паверха на іх сталі падтрымліваць рызаліт.

Матэрыялам для другога паверха паслужылі дубовыя бярвенні. З яго ўзвядзеннем быў перанесены і галоўны ўваход на супрацьлеглы бок. На рызаліце — галерэя з маленькіх калон, крытая дошкамі. З боку ракі, але на той самай вышыні, месцілася лоджыя. Дах высокі, пад гонтай. Праз усе паверхі праходзілі два вялікія коміны. Унізе размяшчалася кухня, пякарня, склеп, гаспадарчыя памяшканні. Наверсе — сталовая памерамі 8 на 5 м, салон 7 на 5 м. Па абодвух баках калідора — па тры пакоі. Ля лоджыі яшчэ два пакоі. Прыхожая аздоблена пад натуральнае дрэва. Вокны выраблены нібы з двух частак: ніжняя простакутная, верхняя нагадвала паўкруглы вітраж.



Колішняя сядзіба ў Міжрэччы. Малюнак з архіва аўтара

У даўнія часы пакоі былі абабіты тканінай, у міжваенны час іх абклеілі шпалерамі.

Незвычайнымі былі вялікія грубкі з бронзавай, белай, жоўтай кафлі XVIII — XIX стагоддзяў, упрыгожанай арнаментам. Падлога — з паркета розных узораў. Цудоўнай кавальскай работай вызначаліся жалезныя клямкі ў дзвярах (такіх больш нідзе немагчыма сустрэць). Адзін з пакояў насіў назву масонскага, бо Томаш Мірскі, колішні ўладальнік сядзібы, быў членам Віленскай масонскай ложы, масонам лічыўся і яго швагер Канстанцін Валасоўскі. Сам Томаш Мірскі быў генералам, адным з кіраўнікоў віленскага ўрада падчас паўстання Тадэвуша Касцюшкі.

У пакоях стаяла шмат старадаўняй мэблі, часткова выраблена мясцовымі майстрамі, прадметаў, прывезеных з Італіі. Захаваўся дакумент пачатку XIX ст., які пацвярджаў уплату 100 дукатаў за карціны еўрапейскіх мастакоў. Частка каштоўных рэчаў была падзелена яшчэ ў канцы XIX ст., пэўную колькасць у час рэвалюцыі вывезлі ў Лявонпаль, дзе і загінула пры пажары палаца Лапацінскіх.

Асабліва шкада багатага архіва, які захоўваў нават каралеўскія граматы і прывілеі ўладальнікам Міжрэчча, лісты XVII — XVIII стагоддзяў, газеты часоў паўстання Т. Касцюшкі. Усё гэта знікла ў гады вайны і пасляваенны час.

Паблізу дома, направа, знаходзілася яшчэ адна пабудова — лямус, напэўна, таксама XVII ст. Як і дом, ён быў двухпавярховы. У ніжнім, мураваным, змяшчаліся лядоўня, склеп, а ў верхнім, драўляным, — склад для сушэння сыроў. Гэты будынак таксама быў крыты гонтай, існавалі сляды галерэі, якая акружала лямус на вышыні паўпаверха.

Перад домам красавалі вялікія газоны. Дарога ад ракі была абсаджана дэкаратыўнымі кустамі. Да самой сядзібы вяла кіламетровая алея надвіслянскіх таполяў. Пірамідальныя таполі і старыя каштаны вельмі прыгожа аздаблялі ўезд. Налева ад дома цягнуўся бэзавы сад. Дарога паміж домам і садам вяла да ракі, праваруч яе — парк для прагулак са шматлікімі сцежкамі, алеямі з дэкаратыўнымі кустамі, серабрыстымі і бальзамічнымі таполямі, чаромхай. Далей — маляўнічая сцежка ў даліну векавых дубоў і ліп.

Сядзібная пабудова ацалела падчас вайны. Але неўзабаве мясцовы калгас прыстасаваў яе пад млячарню (малочны заводзік), а пазней і зусім будынак быў разабраны. Засталіся толькі велічныя цагляныя скляпенні.

Нягледзячы на разбурэнне сядзібы, яе адметныя руіны вельмі захапляюць турыстаў. Ад векавых алей яшчэ захавалася частка магутных дрэў. А на вясковых могілках у вёсцы Сташулі — дзякуючы клопату мясцовых жыхароў — захаваліся прыгожыя помнікі на магілах колішніх уладальнікаў маёнтка Міжрэчча.



Помнік канца XIX ст. на мясцовых могілках

# На свой манер



Іван МЕЛЬНІЧУК

**Напамін**

*Калі наведаў ты райцэнтр,*
*Адно запамятай:*
*Там, верагодна, рай для цэн,*
*Але не божы рай.*

**Бяда**

*«Бяда, — суседзі кажуць, — у Сцяпана, —*
*Штовечар жонка прападае*
*ў рэстаранах».*
*— Мо там працуе? Альбо п'е, гуляе?*
*— Па рэстаранах мужанька шукае.*

**Пошукі**

*Сярод аб'яў аднолькавых нямала:*
*То мопс прапаў, то кошачка прапала.*
*Такіх аб'яў — нібы на Спаса мух.*
*Адно, і пэўна кожнага, здзіўляе:*
*Чамусьці зніклых жонак (можа, шлюх?)*
*Ніхто і па аб'явах не шукае.*

**Памылачка**

*Каб мець жыллё,*
*Узяў Стас жонку з хатай.*
*Глядзіць цяпер на свет, нібы з-за кратаў:*
*Абранніцай там створана «турма»:*
*Жыллё знайшоў,*
*А вось жыцця няма.*

**На свой манер**

*Закладалі хлопцы сілас,*
*А Мікіту дзесь насіла.*
*Як не раз, на свой манер,*
*Закладаў ён… за каўнер.*

**Хоць на Сатурн**

*Упадабала Віцю Тася,*
*У каханні паклялася:*
*«За табой хоць на Сатурн»…*
*Пацягнулася… ў шоп-тур…*

**Асечка**

*Кароткая гамонка між сяброў:*
*«Адмучыўся, нарэшце, наш Пятроў»…*
*— Быў дужы, быццам дуб, і ўрэзаў дуба?*
*— Ды не, да камерсанта збегла*
*яго Люба.*

**Дыялог**

*Пецю радаваў Святлану:*
*«Хочаш, зорачку дастану!».*
*А яна: «Хай зоркі свецяць,*
*Лепш дастань мне футра, Пецяʼ».*

**Мнагавектарны**

*Каханак многа меў Пятроў —*
*Ад маладух да бабак без зубоў.*
*Тлумачыў: «Я не ветраны,*
*А проста мнагавектарны».*

**Ганарлівец**

*Валянцін другіх не горшы,*
*Ходзіць важна, нос задзёршы.*
*«Пэўна, ажаніўся ўжо?»*
*«Не… Купіў сабе "Пежо"».*

**Мытня**

*Чуюць хлопцы бас Сымонкі:*
*«Няма мытні лепш ад жонкі,*
*Бо заначку адшукала*
*І ўначы канфіскавала».*

**Жартам кажучы**

*Экстрасэнсы абяцалі*
*Зняць усе сурокі з Валі.*
*«Мэрс» забралі, футру ўкралі*
*І з кара́лямі «зліня́лі».*

**Парада**

*Дзед прыкульбвае ля печы,*
*П'е баржом і кашаль лечыць.*
*Баба дзеду: «Стань маржом —*
*Не спатрэбіцца баржом».*

**Крыўда**

*Баба з дзедам нібы совы,*
*Ў іх перыяд «ледніковы»:*
*Не аддаў дзед «Форд» унукам*
*Ды і пенсію «прафукаў».*

**Першапраходзец**

*Дзед, прыехаўшы з курорта,*
*Па сяле бадзяўся ў шортах.*
*Бабы кпілі: «Пэўна, кралі*
*Калашыны адарвалі».*

**Вось і зразумей**

*Скажыце, людзі добрыя, як быць:*
*Нас заклікаюць бліжняга любіць.*
*А кінеш ледзь на прыгажуню вокам,*
*Дык жоначка адразу зірне воўкам.*

**Бульбакапалка**

*Даводзіў Глеб суседзям палка:*
*«Ёсць у мяне бульбакапалка».*
*І кожны ў вёсцы разумеў:*
*Ён на ўвазе жонку меў.*

# Протафемінізм Шарлоты Бронтэ

Таццяна ШЫПІЛАВА

Шарлота Бронтэ (Charlotte Brontë) — старэйшая сястра з вялікай і таленавітай сям'і, якая пахавала ўсіх сваіх сясцёр і брата. Яна напісала чатыры раманы, але толькі «Джэйн Эйр» мае сапраўды культавы статут. Пры гэтым менавіта Шарлоту прынята адносіць да «бліскучай плеяды» ангельскіх раманістаў сярэдзіны XIX стагоддзя, ставячы яе ў адзін шэраг з Дзікенсам і Тэкерэем.

Ці варта пераказваць усім вядомыя факты: строгі бацька-вікар, які больш займаецца сваімі пропаведзямі, чым дзецьмі; дзве старэйшыя сёстры Мэры і Элізабэт, якія захварэлі ў школе для дзяўчынак і неўзабаве памерлі; дзве малодшыя сёстры-пісьменніцы, геніяльная Эмілі і не меней таленавітая Эн, на жаль, таксама памерлі ў 30- і 29-гадовым веку адпаведна; брат Патрык Брэнуэл, таленавіты мастак, але алкаголік і наркаман, настолькі змучыў і сябе, і сям'ю сваімі залежнасцямі, што нават уласную выяву замазаў на сямейным партрэце, як быццам спецыяльна сціраючы сябе з іх жыцця.

Аб гэтым, здаецца, ведаюць усе. Як і аб тым, што ў самым вядомым рамане Шарлоты «Джэйн Эйр» шмат аўтабіяграфічных момантаў: і вучоба ў школе, і праца настаўніцай і гувернанткай, і каханне да мужчыны, удвая старэйшым за яе. Раман працяты асабістымі назіраннямі наскрозь, адлюстроўваючы погляд маладой жанчыны на жыццё віктарыянскай Англіі сярэдзіны стагоддзя. Але што



Фота biography.com

Шарлота Бронтэ

ж вызначае феномен гэтага рамана, а разам з ім — і феномен самой Шарлоты Бронтэ?

Чаму непрыгожая Джэйн пакарыла ўвесь свет? Хоць насамрэч Шарлота не сама прыдумала знешнасць сваёй гераіні, яна «запазычыла» яе ў малодшай сястры Эн: яе «Агнэс Грэй» была напісана раней за «Джэйн Эйр». Структурна раманы падобныя: непрыгожая гувернантка вылучаецца сярод свайго асяроддзя сваім унутраным светам і знаходзіць сваё шчасце з брыдкім, але шчыра кахаючым яе мужчынам. Гэта ўсё, вядома, служыць супрацьпастаўленнем сентыменталісцкай і рамантычнай эстэтыцы, дзе гераіні ў большасці сваёй прыгажуні. Але для больш спрактыкаванага чытача становіцца зразумела, што справа не гэтулькі ў непрыгажосці гераіні, колькі ў самой эпосе, у якой насоўваецца эмансіпацыя, разгулле працоўнага руху і ў развіцці ангельскага крытычнага рэалізму.

Стварэнне «Джэйн Эйр» прыпадае на перыяд чартысцкага руху ў Англіі, калі сацыяльнае пытанне паўстала вострым рубам. І хоць адносіны кіруючага і працоўнага класаў пісьменніца амаль не паказвае (толькі адзін раз гучыць навіна аб прыцясненні беспарадкаў), усё ж ва ўсёй інтанацыі рамана адчуваецца бунт супраць існуючай сістэмы. І гэта вельмі добра відаць: буржуазна-віктарыянскі ідэал «хатняга анёла» ў выглядзе Джэйн бурыцца на вачах. Гераіня не тое што імкнецца — яна патрабуе роўнасці з мужчынам у каханні і шлюбе, мала таго, што змагаецца за сваю чалавечую годнасць, але і робіць гэта паспяхова. «Калі нас б'юць без прычыны, мы павінны адказваць ударам на ўдар — я ўпэўнена ў гэтым, — і прытым з такой сілай, каб назаўсёды адвучыць людзей біць нас», — заяўляе дзесяцігадовая Джэйн ужо ў першых раздзелах рамана.

«Джэйн Эйр» — гэта, безумоўна, сацыяльна-псіхалагічны раман выхавання. Шарлота спачатку ўводзіць у аповед, у процівагу Дзікенсу, дзяўчынку-сірату, якая глядзіць нявіннымі, але ўпартымі вачыма на свет дарослых і задае пытанні, на якія пурытанскае ангельскае грамадства адказаць не ў стане. Напрыклад, сцэна са знявагай Джэйн у Ловудзе, школе для сірот, нараджае глыбокі рэлігійны канфлікт гераіні з пратэстанцкім грамадствам, сухая рацыянальнасць якога правакуе жорсткасць адзнак і неўзаметку падмяняе хрысціянскую любоў да грэшнага чалавека нянавісцю да яго як да «ворага», як да «адхіленага». Гераіня пераадольвае сябе і сутыкаецца з рознымі сацыяльнымі пластамі Англіі першай паловы XIX стагоддзя.

Сцісласць рэалістычных характарыстык персанажаў у Шарлоты, прыхільніцы Тэкерэя, уражвае сваёй дакладнасцю і выразнасцю. Містэр Броклхерст, «чорны слуп» з «высечанай з каменя маскай» замест твара, ад якога нібы вее магільным холадам, і насамрэч сваімі метадамі выхавання акажацца прычынай гібелі некалькіх дзясяткаў дзяўчынак у Ловудскім прытулку. Параўнанне святара Сэнт-Джона Рыверса з мармуровай статуяй, хоць і прыгожай у сваёй антычнай ідэальнасці, але халоднай і фанатычнай, наводзіць на думкі аб мастацкім пераасэнсаванні ролі бацькі ў жыцці самой Шарлоты. Таму сама гераіня ніяк не можа стаць яго жонкай, у выніку застаючыся яму толькі сястрой. Шарлота, вядома, як і ўсе аўтары той пострамантычнай пары, успадкоўвае пэўныя рысы рамантызму. Гэта і вобраз Торнфілда, загадкавага, змрочнага, ваўкаватага; і сам містэр Рочэстэр, у якога «чорныя густыя бровы, масіўны лоб у рамцы чорных валасоў»; і таямнічыя начныя гукі, паходжанне якіх стане зразумелым у адзін з кульмінацыйных момантаў рамана; і таямнічыя верасовыя пусткі, па якіх бадзяецца Джэйн пасля сыходу з Торнфілда; і поўны кахання і роспачы кліч Эдварда Рочэстэра, які чуе гераіня ў самы складаны момант, знаходзячыся на жыццёвым раздарожжы, — усё гэта, безумоўна, выяўляе ў ёй чытачку Вальтэра Скота і Ганны Радкліф, паслядоўніцу рамантычнай эстэтыкі Байрана.

Пры гэтым Шарлота ўводзіць новыя прыёмы псіхалагізму. Напрыклад, найяскравымі эпізодамі можна смела назваць карціны Джэйн Эйр, так непадобныя на выяўленчае мастацтва таго часу, якое, хоць і змешвалася з рамантычнымі тэндэнцыямі, але імкнулася да маштабу, рэалізму і збольшага нават натуралізму. Джэйн жа, захапляючыся жывапісам, стварае нешта, што больш нагадвае ўжо мадэрнісцкія плыні, можа быць, нават нібы прадказваючы прыход Ван Гога і Далі.

Раманы Шарлоты, што першы, што наступныя, пры ўсёй сукупнасці рамантычных і рэалістычных рыс, маюць дыдактычную, асветніцкую скіраванасць. І гэтыя ўнутраныя дыдактычныя арыенціры, з аднаго боку, звязаныя з пратэстанцкім светапоглядам не толькі самой Джэйн, але і Шарлоты, і ўсяго ангельскага грамадства таго часу, а з другога — вось гэтая вера ў цуд і імкненне да шчасця і любові больш вырастае са светапогляду каталіцкага.

Затым была напісана «Шэрлі» (прататыпам галоўнай гераіні, дарэчы, стала Эмілі), у якой ужо гучыць прамы зварот да тэмы сацыяльных канфліктаў, а таму «на лясных раўнінах Ёркшыра ўжо няма месца феям», як заяўляла сама Шарлота. Для напісання гэтага рамана, для ўзнаўлення карціны гэтых сацыяльна-структурных змен, якія ахапілі краіну, пісьменніца вывучае газеты і часопісы, уводзіць у аповед рэальныя гістарычныя факты, таму і наратыў гучыць такім праўдападобным, такім рэалістычным, што, здавалася, рамантызму тут ужо няма месца. Але не, рамантычны светапогляд не можа па пстрычцы пальца знікнуць, а таму ўсё яшчэ гучыць, але ўжо не ў асобна ўзятых рысах, а ў агульнай карціне жыцця, у агульным усведамленні той катастрофы, якая навісла над Англіяй, калі «адчай дасягнуў мяжы», а «над зямлёй паўночных раёнаў чуліся першыя грымоты землятрусу». Але нягледзячы на ўсю гэтую перасцерагальную карціну, у канцы ўсё роўна гучыць дыдактычны матыў усёдаравання і ўсеагульнага ўзаемаразумення, што наогул было характэрна для таго перыяду: у «Мэры Бартан» Элізабэт Гаскэл адбываецца прымірэнне працоўнага і фабрыканта, а Скрудж у «Каляднай песні» Дыкенса пераасэнсоўвае сваё існаванне і становіцца шчодрым, спагадным чалавекам. Гогаль апынуўся больш скептычным на гэты конт — і другі том «Мёртвых душ» адпраўляецца ў камін.

Чым добрыя апошнія раманы Шарлоты — даследаваннем жаночых характараў у драматычных абставінах, і ў напружаным сацыяльным жыцці ярка раскрываецца складанае ўнутранае, духоўнае жыццё віктарыянскай жанчыны.

У апошні раман «Гарадок» Шарлота зноў вырашыла ўнесці аўтабіяграфічныя ноткі, якія не спрацавалі ў самым першым, неапублікаваным «Настаўнікі». Каханне пісьменніцы да Канстанціна Эгера, у якога калісьці гасцявалі Шарлота і Эмілі ў Брусэлі, збольшага заўважнае ўжо ў Эдвардзе Рочэстэры, цяпер жа выразна ўвасабляецца ў характары Поля Эмануэля, каханага Люсі Сноў. І Рочэстэр, і Эмануэль былі значна старэйшыя за галоўных гераінь, што паказвае цягу Шарлоты да людзей дасведчаных, адукаваных, незалежных, іранічных, самадастатковых.

Але ўсё ж галоўнай вартасцю кнігі становіцца зусім новая для віктарыянскай эпохі думка: жанчына, нават калі губляе каханага мужчыну, можа пражыць і самастойна. Не маючы патрэбы ў абароне і заступніцтве, разлічваючы толькі на свой розум і адукаванасць, яна цалкам можа заняць дастойнае месца ў грамадстве і не адчуваць сябе непаўнавартаснай.

Шарлота не лічыла сябе феміністкай, бо тады не існавала ніякага фемінізму як паняцця. Але гэтая цяга да выяўлення незалежнага жаночага характару, самастойнай асобы, безумоўна, папярэдзіла станаўленне феміністычнага руху.

Усё гэта мы называем протафемінізмам, але для спадчыны сясцёр Бронтэ важна нават не гэта. Важна тое, што яны былі таленавітыя настолькі, што за той нядоўгі перыяд жыцця, які ім быў адведзены, змаглі стварыць тэксты такой значнасці, што мы вяртаемся да іх зноў і зноў на працягу вось ужо амаль двух стагоддзяў.



Фота wikipedia.org

Партрэт сясцёр Бронтэ, 1835 г.
У цэнтры бачны зацерты сілуэт брата Брэнуэла.




Дом Шарлоты Бронтэ, 1816 - 1855 гг.
Хаворт-парсонадж, Ёркшыр, Англія.

## Міжнародная прэмія імя Збігнева Герберта-2023

Фонд імя Збігнева Герберта абвясціў пераможцу сёлетняй Міжнароднай літаратурнай прэміі. Ёй узнагародзілі Томаса Венцлава, якога многія лічаць найвялікшым літоўскім паэтам, які змагаўся за правы чалавека ў Літве ў якасці дысідэнта ў часы СССР.



Томас Венцлава

Фота wikipedia.org

«Томас Венцлава прысвяціў сваё жыццё літаратуры і барацьбе з аўтарытарызмам. Гэта найвялікшы літоўскі паэт, вядучы пісьменнік Усходняй Еўропы, адно з апошніх звёнаў у ланцугу, які злучае Герберта, Мілаша і Бродскага», — сказаў Эдвард Гірш, старшыня сёлетняга журы. Катажына Герберт, жонка Збігнева Герберта і заснавальніца Фонда яго імя, дадала: «Я рада, што сёлетняя Прэмія будзе ўручана вялікаму паэту, творчасць якога Герберт ведаў і цаніў». Пераможца, падзякаваўшы журы за выбар, сказаў: «Для мяне гэта вялікі сюрпрыз і, перш за ўсё, гонар атрымаць Прэмію такога выдатнага мецэната».

Томас Венцлава нарадзіўся ў 1937 годзе ў Літве, першы томік вершаў выдаў другім накладам у выдавецтвах у 1958 годзе. Быў цесна звязаны з колам пісьменнікаў-дысідэнтаў, якія жылі ў СССР (Ганнай Ахматавай, Барысам Пастэрнакам, Іосіфам Бродскім). У 1977 годзе, як дысідэнт і сузаснавальнік Літоўскай Хельсінкскай групы, вырашыў жыць у эміграцыі. Выехаў у ЗША, дзе шмат гадоў выкладаў славянскую літаратуру ў Ельскім універсітэце. Праз шмат дзесяцігоддзяў вярнуўся на Радзіму.

У 1950-я — 1960-я гады паэт не раз бываў у савецкай Беларусі. Мінулы раз наведаў Беларусь у красавіку 2019-га, прыняў удзел у прэзентацыі першага кніжнага выдання яго вершаў па-беларуску і ў другім фестывалі інтэлектуальнай кнігі «Прадмова». Усклаў кветкі ў мемарыяле памяці ахвяр сталінскага тэрору ва ўрочышчы Курапаты.

Вершы Томаса Венцлавы перакладаліся на англійскую, кітайскую, нямецкую, італьянскую, шведскую, украінскую мовы. Па-беларуску яго паэзію перастваралі Л. Баршчэўскі, А. Хадановіч, А. Мінкін, А. Разанаў, В. Вячорка і інш. У 2019 годзе ў беларускай незалежнай серыі «Паэты планеты» выйшаў зборнік «Выбраныя вершы» Т. Венславы.

Міжнародная літаратурная прэмія імя Збігнева Гэрбэрта — гэта адзнака ў галіне сусветнай літаратуры — перадусім у галіне паэзіі. Яна ўручаецца з 2013 года за выдатныя мастацкія і інтэлектуальныя дасягненні, звязаныя з ідэямі, якімі кіраваўся ў творчасці Збігнеў Герберт.

Цырымонія ўзнагароджання сёлетняга лаўрэата адбылася ў тэатры Polski ў Варшаве.

Міжнародная літаратурная прэмія Zbigniew Herbert 2023 была суфінансавана польскім міністрам культуры і нацыянальнай спадчыны з Фонда садзейнічання культуры.

## Прэмія «Literari Flame»



Вольга Такарчук

Польская пісьменніца, лаўрэатка Нобелеўскай прэміі Вольга Такарчук стала лаўрэаткай міжнароднай літаратурнай прэміі «Literary Flame (Літаратурны агонь)». Прэмія была ўручана на пачатку верасня падчас сёмага Міжнароднага літаратурнага фестывалю «Ćirilicom» у Будве (Чарнагорыя).

Старшыня журы прэміі «Літаратурны агонь» — перуанскі пісьменнік, таксама нобелеўскі лаўрэат Марыё Варгас Льёса. Назва прэміі паходзіць ад слоў, якія ён змясціў у адным са сваіх эсэ: «Літаратура падобная да агню — праз прыгажосць, сацыяльную актыўнасць, крытычнае і творчае стаўленне яна вядзе нас да ідэі лепшага свету і жыцця, ідэі лепшага чалавека, больш багатага і шчаслівага грамадства, дзе ўсе роўныя».

У мінулыя гады прэмію «Літаратурны агонь» атрымлівалі Архан Памук, Адам Загаеўскі і Маргарэт Этвуд.

## Прэмія імя Івана Франка

У Драгобычы Львоўскай вобласці Украіны абвясцілі лаўрэата сёлетняй Міжнароднай прэміі імя Івана Франка. Пераможцам стаў Мікола Лёгкі з кнігай «Проза Івана Франка: паэтыка, эстэтыка, рэцэпцыя ў крытыцы». Ён атрымаў 200 тысяч грыўняў і залаты медаль. Прэміяльны фонд сфармаваны за кошт дабрачынных узносаў.




Фота Тэлеграм М. Казіцкі

## Літмаркі Расіі

Сталі вядомы імёны пісьменнікаў, якіх увекавечаць на паштовых марках Расіі ў наступным годзе. У спісе пяць празаікаў і паэтаў: Барыс Васільеў, Юрый Бондараў, Віктар Астаф'еў, Юлія Друніна і Уладзімір Багамолаў. Усім ім у 2024-м споўнілася б 100 гадоў.

Выбар імёнаў, чые партрэты трапляюць на маркі, адбываецца так: першапачаткова з такой ініцыятывай выступае Саюз пісьменнікаў Расіі, спіс адпраўляецца ў акцыянернае таварыства «Марка», і ўжо потым яго разглядае і зацвярджае спецыяльная Камісія па дзяржаўных знаках паштовай аплаты пры Міністэрстве лічбавага развіцця, сувязі. і масавых камунікацый РФ. Права на выкарыстанне выявы таксама ўзгадняецца са сваякамі пісьменнікаў, і толькі пасля таго, як усе фармальнасці ўзгоднены, партрэты трапляюць на канверты, іх тыражы звычайна складаюць сотні тысяч асобнікаў. Так, вядома, што ў 2017 годзе канверт з арыгінальнай маркай у гонар 125-годдзя Канстанціна Паўстоўскага выйшаў у абарот тыражом у адзін мільён экзэмпляраў.

## Смяротнае пакаранне за твіты

Праваабарончая арганізацыя Human Rights Watch паведаміла, што ў Саудаўскай Аравіі да смяротнага пакарання быў прысуджаны мужчына за яго дзейнасць у Twitter і YouTube. Пра гэта паведамляе bukvy.org са спасылкай на Human Rights Watch. Арганізацыя заклікала адмяніць прысуд, які з'яўляецца «эскалацыяй падаўлення ўладамі свабоды слова і мірнага палітычнага іншадумства ў краіне».

Спецыялізаваны крымінальны суд Саудаўскай Аравіі прызнаў Мухамада аль-Гамдзі, настаўніка на пенсіі, вінаватым у некалькіх злачынствах, звязаных выключна з яго выказваннямі ў Інтэрнэце. Ён быў прысуджаны да смяротнага пакарання, выкарыстоўваючы твіты, рэтвіты і дзейнасць на YouTube у якасці доказаў супраць яго. Паводле суда, аль-Гамдзі вінаваты ў «апісанні караля і наследнага прынца ў форме, якая падрывае рэлігію і закон», у сувязі з тэрарыстычнай арганізацыяй і публікацыі фэйкаў «з намерам здзейсніць тэрарыстычнае злачынства».

Рэпрэсіі ў Саудаўскай Аравіі дасягнулі жахлівай новай стадыі, калі суд можа вынесці смяротны прысуд толькі за мірныя твіты, заявіў эксперт HRW Джоі Шы, заклікаючы ўлады краіны «адкінуць гэтую пародыю на правасуддзе».



Мухамад аль-Гамдзі

Мухамад аль-Гамдзі быў арыштаваны ў чэрвені 2022 года і змешчаны ў турму аль-Дахбан на поўнач ад Джыды, дзе ён правёў чатыры месяцы ў адзіночнай камеры і не меў доступу да адваката і кантактаў са сваякамі. Пазней яго перавялі ў турму Аль-Хаір у Эр-Рыядзе. Асуджаны не лічыць сябе палітычным актывістам або праваабаронцам, а называе сябе прыватнай асобай, якая выказвае пэўную занепакоенасць урадам Саудаўскай Аравіі, адзначае HRW. Таксама паведамляецца, што братам асуджанага з'яўляецца вядомы ў Саудаўскай Аравіі ісламскі навуковец і крытык урада Саід бін Насер аль-Гамдзі, які жыве ў выгнанні ў Вялікабрытаніі.

## Аўтарскае права і штучны інтэлект

Суд у ЗША пастанавіў, што тэксты, створаныя штучным інтэлектам, не могуць быць абаронены аўтарскім правам. Такое рашэнне прыняў суд у Вашынгтоне. «Толькі чалавечыя творы могуць быць абаронены аўтарскім правам», — заявіла акруговы суддзя ЗША Берыл Хаўэл. Бюро аўтарскіх правоў ЗША заявіла, што «лічыць, што суд прыйшоў да правільнай высновы». Бюро аўтарскіх правоў таксама адхіліла заяўку мастака на выявы, створаныя з дапамогай сістэмы Midjourney, нягледзячы на тое, што мастак сцвярджаў, што сістэма была толькі часткай творчага працэсу.

Прайшлі таксама некалькі судовых працэсаў наконт выкарыстання твораў, абароненых аўтарскім правам, для навучання генератыўнаму штучнаму інтэлекту без дазволу. Як паведаміла "The Atlantic", моўная мадэль выкарыстоўвала для навучання ўрыўкі з твораў Джэймса Патэрсана, Стывена Кінга, Джорджа Сондэрса, Зэдзі Сміта і Джуно Дыяс. Пісьменнік і журналіст Алекс Рэйснер выявіў больш за 170 000 кніг у базе дадзеных "Books3". Са 170 000 назваў каля адной траціны — мастацкая літаратура, а дзве траціны — навукова-папулярная. База змяшчае кнігі як буйных, так і малых выдавецтваў. Сярод кніг, якія выкарыстоўваліся для навучання штучнаму інтэлекту, журналісты знайшлі як мінімум 9 кніг Харукі Муракамі, 7 Джонатана Фрэнзена і 33 Маргарэт Этвуд.

### ПЫТАННЕ З ПОШТЫ

***«…Калі ласка, ці не можаце мне паведаміць, дзе знаходзіцца магіла першадрукара Івана Фёдарава?»***
***Ганна Віктараўна ПРОЦЬКА, настаўніца***

Астанкі ўсходнеславянскага першадрукара Івана ФЕДАРОВІЧА (Фёдарава) перапахавалі 18 снежня 2017 года ў Львове ў царкве манастыра Святога Ануфрыя.

Урачыстая працэсія, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх рэлігійных канфесій Львова, прайшла па вуліцах горада ад храма Успення Найсвяцейшай Багародзіцы (вуліца Руская) у манастыр Св. Ануфрыя. Сумесна з друкаром перапахавалі і парэшткі яго сына.

Пахаванне вядомага беларуска-маскоўска-ўкраінскага друкара Івана Федаровіча выявіў у храме манастыра Св. Ануфрыя ў 1971 годзе даследчык Барыс Вазніцкі. У той савецкі час будынак быў закінутым, а царква не дзейнічала. Доўгі перыяд астанкі першадрукара захоўваліся ў Музеі мастацтва старадаўняй украінскай кнігі Львоўскай нацыянальнай галерэі мастацтваў, і толькі з шэсць гадоў таму назад змаглі правесці іх экспертызу.

«Спецыялісты пацвердзілі, што памерлы быў чалавекам сталага ўзросту, адпавядае дадзеным пра Федаровіча-Фёдарава, — распавяла генеральны дырэктар Львоўскай нацыянальнай галерэі мастацтваў імя Б. Вазніцкага Ларыса Вазніцкая-Разынкова. — Таксама ў касцях выявілі павышанае ў два разы ўтрыманне цяжкіх металаў, якія ў той час выкарыстоўвалі пры друку. Таму ў нас няма сумневаў, што гэта сапраўды Іван Фёдараў».

Перапахавалі першадрукара на тым жа месцы, дзе больш за 50 гадоў таму знайшлі астанкі.

Нагадаем: Іван Федаровіч (Фёдараў), народжаны ў Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім, пасля палачаніна Францыска Скарыны выдрукаваў першую кнігу ў Маскові, а затым — пасля ўцёкаў ад дэспата-цара Івана Жахлівага — стаў украінскім першадрукаром. У Львове ў 1574 годзе ён надрукаваў першы ўсходнеславянскі дапаможнік — «Буквар» з граматыкай.